# ЭБОЛА ЎЖО Ў ЕЎРОПЕ


№ 37 (874) 8 кастрычніка 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

**Наша Ніва**

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады






МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ ІСПАНІІ

У Іспаніі на Эболу захварэла медсястра. Яна даглядала святара, які вярнуўся з Афрыкі. Старонка 2.

## Усе памочнікі Лукашэнкі: ад сына — да Янчэўскага



Памочніца прэзідэнта Наталля Пяткевіч адпраўленая ў адстаўку «па згодзе бакоў». Старонка 4.



## 1,5 года за гэта???

Юрый Рубцоў асуджаны на «хімію». 6 кастрычніка суд Цэнтральнага раёна Мінска прызнаў актывіста вінаватым у абразе суддзі Кірыла Палулеха і прысудзіў яму 1,5 года «хіміі». Старонка 2

КІРЫЛА ХІЛЬКО

## Трэці чалавек ва ўрадзе

Гісторыя поспеху віцэ-прэм'ера Анатоля Калініна. Старонка 5.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН





**Валерыя Кустава:** Лепш праграміст на кухні, чым паэт на шыі. Старонка 9

# 1,5 гады за гэта???

Юрый Рубцоў асуджаны на «хімію».

6 кастрычніка суд Цэнтральнага раёна Мінска прызнаў гомельскага актывіста Юрыя Рубцова вінаватым у абразе суддзі Савецкага раёна Мінска Кірыла Палулеха і прысудзіў яму 1,5 года «хіміі». Цяпер у яго ёсць 10 дзён на абскарджанне прысуду.



### Абраза на 3 гады

Упершыню Рубцоў і Палулех сустрэліся 28 красавіка. Тады Рубцова затрымалі пасля акцыі «Чарнобыльскі шлях», бо на ім была апранута футболка з надпісам «Лукашэнка, сыходзь!», і прысудзілі да 25 сутак арышту за «дробнае хуліганства». Аднак падчас судовага працэсу Рубцоў нібыта назваў суддзю «падонкам», і за гэта на актывіста завялі ўжо крымінальную справу.

Судовы працэс па артыкуле 391 Крымінальнага кодэкса Беларусі «Абраза суддзі ці народнага засядацеля» пачаўся 16 верасня і працягнуўся 6 кастрычніка. Паводле боку абвінавачвання, Рубцоў у судзе сказаў: «Гэта не суд, а судзілішча, а ты, суддзя, падонак». Таксама Рубцоў нібыта пагражаў «знайсці суддзю пасля таго, як выйдзе», і дапусціў адно нецэнзурнае выказванне ў адрас суда.

З боку абвінавачвання на судзе выступалі амапаўцы Шарко і Андрэй Белы, якія затрымлівалі Рубцова «за мацюкі», міліцыянты Максім Шавароў і Павал Нелюбовіч, якія дзяжурылі ў той дзень у судзе, і сакратарка суда Дар'я Стасюк. Усе яны пацвердзілі, што Рубцоў казаў «падонак» у адрас Палулеха. Сведкі давалі паказанні няўпэўнена, спасылаючыся на доўгі тэрмін, што мінуў з часу суда.

Сам Рубцоў запэўніваў, што яго фраза гучала наступным чынам: «Гэта не суд, а судзілішча, а суддзі, якія выносяць заведама несправядлівыя рашэнні, з'яўляюцца падонкамі». Гэтым чынам ён выказаў пратэст супраць судовай сістэмы Беларусі, якая, па яго словах, апрыёры не незалежная, бо суддзі працуюць па тэрміновых кантрактах і мусяць прымаць «правільныя» прысуды, калі не хочуць застацца без працы. Рубцоў заявіў, што другое яго выказванне таксама сказілі: ён казаў, што выйдзе і застанецца шчырым чалавекам, а суддзя адкажа за свае дзеянні перад законам.

Суд не прыняў да ўвагі ніводзін з довадаў абароны. Усё гэта стала падставай, каб суддзя Наталля Вайцаховіч прысудзіла Рубцова да 2,5 гадоў «хіміі». Аднак год ад пакарання адняў закон аб амністыі, прымеркаваны да 70-годдзя вызвалення Беларусі. Пракурор першапачаткова прасіў 3 гады абмежавання свабоды.

### «Я не ўстану перад злачынцамі»

Апошняе слова Рубцова было эмацыйным. Ён расказаў пра эксперымент, які ставілі за часам СССР: інсцэніравалі выкраданне выкладчыка з універсітэцкай аўдыторыі. Потым следчыя апыталі ўсіх студэнтаў, і з дзвюх соцень апісанняў не было двух ідэнтычных. «А тут пяць пратаколаў сведак, і ўсе аднолькавыя, да коскі», — сказаў Рубцоў.

«Калі цяпер прачытаць пратакол, там не будзе вашых словаў, — звярнуўся ён да суддзі. — Вы выбіраеце, што напісаць у пратаколе пасля. Таму ў Беларусі дагэтуль не вядзецца аўдыёзапіс судовых паседжанняў, а пратаколы друкуюць сакратары — каб можна было напісаць, што трэба.

Нельга сведкамі выклікаць асобаў, якія працуюць па кантракце. Яны робяць, што ім кажуць, бо інакш застануцца без працы. Я ні разу не ўстаў, калі ўваходзіў суддзя. Я не буду ўставаць перад злачынцамі, у якой бы мантыі яны ні былі: судзейскай ці пракурорскай. Я не буду прасіць аб ласцы. Мне пляваць на ласку любой улады, тым больш злачыннай улады».

І сапраўды, падчас прысуду Рубцоў адзіны ў зале застаўся сядзець.

**Кірыла Хілько**

**Юры Рубцоў**

нарадзіўся у Гомелі ў 1961. Ён рос без сям'і. Пачаў працаваць у 15 гадоў. Усё жыццё працаваў кіроўцам. У 2008 годзе ён балатаваўся ў дэпутаты палаты прадстаўнікоў. Пасля гэтага яго звольнілі з працы і не бралі ў іншыя месцы. Праз гэта ён быў вымушаны з'ехаць у Маскву і працаваць там. Аднак потым жонка ўсё ж угаварыла яго вярнуцца ў родны Гомель. Цяпер Рубцоў працуе майстрам вытворчага навучання — вучыць людзей кіраваць аўтамабілямі.

**Праваабаронцы: Рубцова прызнаюць палітвязнем**

Праваабаронца-вясновец Валянцін Стэфановіч заявіў «НН», што, калі Юрыя Рубцова ўсё ж не апраўдаюць, а адправяць на «хімію», праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнае яго палітвязнем.

«Мы расцэньваем суд над Рубцовым выключна як палітычна матываваны. Гэты працэс наўпрост звязаны з праблемай адвольных затрыманняў, шырока і даўно распаўсюджанай у Беларусі. Адвольных затрыманняў актывістаў апазіцыйных рухаў і партый з нагоды іх прыналежнасці да гэтых арганізацый», — сказаў ён.

# Ліхаманка Эбола ўжо ў Еўропе

У Іспаніі на Эболу захварэла медсястра, якая даглядала святара, што вярнуўся з Афрыкі. Цяпер жанчына знаходзіцца ў шпіталі Мадрыда Hospital de Alcorcon. Але трывогу выклікае той факт, што яна працавала ў інфекцыйным шпіталі, прыстасаваным менавіта для барацьбы з Эболай. Прычым іспанскія ўлады хоць і супакойваюць, што падставаў для панікі няма, растлумачыць, як і чаму захварэла медсястра, яны не могуць.

Раней еўрапейцы таксама хварэлі на небяспечны вірус, але заражаліся ім яны ў краінах Чорнага кантынента. Зараз сітуацыя становіцца больш небяспечнай. Выпадак у Іспаніі — першы, калі хтосьці з каманды лекараў сам падхапіў хваробу.

Але ці пагражае хвароба Беларусі? І ці гатовыя да яе нашыя дактары? На гэтае пытанне адказаў доктар медыцынскіх навук, прафесар Аляксандр Уладыка. Спадар Аляксандр узначальвае лабараторыю біятэхналогій і імунадыягностыкі асабліва небяспечных інфекцый Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра мікрабіялогіі. На яго думку, баяцца Беларусі няма чаго.

«Для нас ліхаманка Эбола не нясе асаблівай пагрозы, бо мы да яе гатовыя. Спецыяльна вучэнні з медперсаналам праводзіліся яшчэ вясной. Дактары ведаюць, што і як рабіць, калі Эбола будзе ў некага выяўленая, ведаюць асноўныя сімптомы. Хворы будзе адразу ізаляваны ў спецыяльным боксе, і распаўсюду інфекцыі мы не дадзім, — запэўніў Аляксандр Уладыка. — Да таго ж, усе пасажыры, якія прыехалі з небяспечных краін, праходзяць агляд яшчэ ў аэрапорце».

Дарэчы, у Беларусі ўжо былі чатыры выпадкі, калі ў студэнтаў з Нігерыі падазравалі менавіта Эболу. На шчасце, гэта было звычайнае павышэнне тэмпературы і ўсё — смяротнага віруса тэсты не паказалі. Прычым двух з гэтых студэнтаў вылечылі непасрэдна ў аэрапорце з дапамогай цеплавізара.

«Хвалявацца не трэба. Па-першае, пакуль у чалавека не праявіліся сімптомы — хвароба не перадаецца. А пасля іх з'яўлення можна захварэць толькі пры вельмі цесным кантакце, тым жа паветрана-кропельным шляхам хвароба не перадаецца, — падкрэсліў Уладыка. — А па-другое, непасрэдна ў нашага мінскага цэнтра вопыт барацьбы з Эболай яшчэ большы, чым у тых жа французаў ці іспанцаў. Мы працавалі з такімі вірусамі яшчэ з часоў СССР і ведаем, як з імі змагацца».

**Улад Швядовіч**

**Ліхаманка Эбола** — цяжкае захворванне, якое выклікае вірус Эбола. Вірус перадаецца пры прамым кантакце з фізіялагічнымі вадкасцямі чалавека (кроў, выдзяленні) ці праз слізістыя абалонкі і парушэнні скурнага покрыва. Першыя сімптомы Эболы падобныя да грыпа — чалавек адчувае слабасць, у яго павышаецца тэмпература, пачынае балець горла, галава. Але хутка пачынаецца дыярэя, сып, парушаюцца функцыі печані і нырак, узнікаюць крывацёкі. Эбола характарызуецца высокай смяротнасцю (гіне 25—90% хворых). Стандартнай ліцэнзаванай вакцыны ад яе пакуль што не існуе.

**Самае чытанае на nn.by за 1—7 кастрычніка**

1 Пяць фактаў пра адстаўленую Наталлю Пяткевіч

2 Юную мінчанку абвясцілі жонкай каларытнага амерыканскага мультымільянера

3 Спецаперацыя ў ГЦ «Шчасце»: нападнік нейтралізаваны, закладніца на волі

4 Лукашэнка гатовы накіраваць на Украіну ўзброеныя сілы Беларусі

5 Анжаліка Агурбаш: Пытанне ваша дурное, і пазіцыя ваша дурная

6 Беларусы гатовыя вываяваць за незалежнасць

7 «Эхо Москвы» гадзіну размаўляла па-беларуску

8 Міхаіл Задорнаў: Ура, нам горш будзе жыць!

9 Забойства ў цэнтры Смаленска ўскалыхнула горад

10 Лукашэнка: Дайце ў школе гадзіну на карысць беларускай мовы

# Ірына Міхайлаўна Быкава: **Ні я, ні Васіль да Лукашэнкі не звярталіся**


НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

Падчас сустрэчы з фіналістамі конкурсу «Настаўнік года», якая прайшла 3 кастрычніка, кіраўнік Беларусі зрабіў некалькі цікавых заяваў.

У прыватнасці, ён параіў уключаць у школьную праграму творы, незалежна ад палітычных поглядаў іх аўтараў. «Паглядзіце, якія творы мы вывучаем. Мы павыкідалі сапраўдных класікаў, у якіх ёсць чаму павучыцца, асабліва ў старэйшых класах, а паўключалі, ва ўгоду нейкім там плыням, групам, тое, чаго там быць не павінна. Васіль Быкаў не быў маім прыхільнікам, але ў яго ёсць класныя творы, якія павінны ведаць у школе. І я заўсёды займаў такую пазіцыю», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Але ж, узгадаўшы класіка адзін раз, кіраўнік дзяржавы не спыніўся. «Мне казалі: вось, Быкаў — здраднік, ён з'ехаў з краіны... Гэта яго права — з'ехаў і з'ехаў. Але калі цяжка стала, ён звярнуўся да каго б вы думалі? Да прэзідэнта. Да прэзідэнта прыйшоў, і жонка прыйшла: дапамажыце, лячэнне... Памёр чалавек — ізноў прыйшлі да дзяржавы, зразумелі, хто чаго варты...» — працягнуў Лукашэнка.

Ці сапраўды сям'я Быкава звярталася да кіраўніка дзяржавы і чым дакладна Лукашэнка ім дапамагаў? Пра гэта карэспандэнт «Нашай Нівы» запытаўся ва ўдавы пісьменніка Ірыны Міхайлаўны. Для яе заява Аляксандра Лукашэнкі была як гром сярод яснага неба.

«Асабіста Лукашэнку, магчыма, хтосьці і прасіў ад нашага імя, але ж мне пра гэта невядома. Нам прэзідэнт даслаў спачуванне, калі Быкаў памёр, і ўсё», — сказала Ірына Міхайлаўна.

Раней падобны выпадак датычыў Генадзя Карпенкі. Аляксандр Лукашэнка сцвярджаў, што ягоная сям'я прасіла дапамогі на пахаванне, бо не было нават туфляў, каб абуць нябожчыка ў труне. Удава прамыслоўца і палітыка катэгарычна гэта абвергла.

**Улад Швядовіч**

# Справа следчага Канапляніка: літоўцы затрымалі беларускага кадэбіста?

21 верасня на літоўска-беларускай мяжы быў затрыманы кіраўнік Следчага камітэта па Мінску Дзмітрый Канаплянік.

Дзмітрый Канаплянік са сваёй жонкай вяртаўся з Вільні, куды выязджаў выключна ў турыстычных мэтах. Пры перасячэнні мяжы ў літоўскім пункце пропуску аўтамабіль накіравалі на пільны агляд, у выніку якога пад днішчам машыны знойдзена скрыня з 50 патронамі калібру 9 мм Luger, такую версію агучыла Генеральная пракуратура Літвы.

Праваахоўнымі органамі Літвы па гэтым факце было распачата расследаванне. У сувязі з гэтым Канапляніку і яго жонцы «абмежаваны выезд з Літоўскай Рэспублікі, іх пашпарты канфіскаваныя». Варта заўважыць, што яны не ўзятыя пад варту.

У Следчым камітэце выступілі з заявай, што Канапляніка скампраметавалі. «Сам Канаплянік паляўнічым не з'яўляецца, зброяй не захапляецца. У Літве знаёмых не мае, выязджаў туды ўпершыню. Праграма знаходжання ў Вільнюсе з'яўлялася сямейным адпачынкам і ўключала наведванне гісторыка-культурных аб'ектаў», — гаворыцца ў заяве.

«Ацэньваючы ў сукупнасці звесткі, што маюцца ў распараджэнні следства, беларускія следчыя мяркуюць, што асноўнай версіяй з'яўляецца ўчыненне нявызначанымі асобамі ў дачыненні да Канапляніка дзеянняў кампраметуючага характару, якія праявіліся ў закладцы патронаў у аўтамабіль», — мяркуюць у СК.



Варта адзначыць, што Дзмітрый Канаплянік у мінулым — супрацоўнік КДБ. Літоўскія журналісты кажуць, што ў гэтай справе ўсё «глуха». Ніякай інфармацыі, за што ж мог быць затрыманы супрацоўнік Следчага камітэта, няма. Сярод магчымых версій — шпіёнскія гульні. Летась Беларускі вайсковы суд вынес прысуд двум грамадзянам Беларусі, абвінаваціўшы іх у шпіянажы на карысць Літвы. А.Фензлеў атрымаў 10 гадоў зняволення, а Е.Качура — 8. Магчыма, літоўцы спрабуюць дабіцца вызвалення гэтых людзей.

**ЗП**

# Лукашэнка гатовы накіраваць ва Украіну ўзброеныя сілы Беларусі

У інтэрв'ю тэлеканалу «Еўраньюс» Аляксандр Лукашэнка заявіў пра гатоўнасць накіраваць ва Украіну беларускія ўзброеныя сілы для спынення канфлікту.

«Калі трэба — а гэта для мяне вельмі небяспечная і страшная рэч, — калі ёсць недавер Расіі да Захаду і Захаду да Расіі, Амерыкі да Расіі і Расіі да Амерыкі, і ёсць недавер ваюючых бакоў, то я гатовы быў бы выкарыстоўваць і свае ўзброеныя сілы для таго, каб развесці канфліктуючыя бакі», — сказаў Лукашэнка.

«Мы лічым, ніякіх міратворчых войскаў ва Украіну ўводзіць не трэба. Трэба, каб Расійская Федэрацыя і тэрарысты выконвалі мінскія дамоўленасці аб спыненні агню і абмене закладнікамі... Расійская Федэрацыя павінна вывесці свае войскі з тэрыторыі Украіны. Ніякіх міратворчых войскаў ва Украіне не трэба. Мы здольныя самі навесці парадак на сваёй зямлі, калі яе пакінуць замежныя войскі», — адзначылі ў МЗС Украіны.

**МБ**

**Апытанне на nn.by**

**Як Вы ставіцеся да ідэі Аляксандра Лукашэнкі, каб беларуская армія раздзяліла варагуючыя бакі ў Данбасе?**

| | | |
|---|---|---|
| За | 90 | 5% |
| Супраць | 1156 | 68% |
| Толькі пры ўмове міратворчай аперацыі ААН | 253 | 15% |
| Толькі пры ўмове ўдзелу НАТА | 137 | 8% |
| Толькі пры ўмове змены Канстытуцыі | 72 | 4% |

Усяго прагаласавала 1708.

# Някляеў адмаўляецца ад удзелу ў выбарах на карысць Мілінкевіча

Праясняецца сітуацыя з адзіным кандыдатам ад апазіцыі на прэзідэнцкія выбары — 2015.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Уладзімір Някляеў не будзе вылучацца ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. Ён падтрымае свайго хаўрусніка па «Народным рэферэндуме», кіраўніка Руху «За Свабоду» Аляксандра Мілінкевіча.

«Ёсць пэўная дамоўленасць, але пакуль што я не магу яе каментаваць», — кажа Уладзімір Някляеў. Паводле яго, бліжэйшым часам будзе больш яснасці ў справе вылучэння адзінага кандыдата. Усе апазіцыйныя палітычныя сілы павінны правесці сустрэчу ў Вільні.



У працэсе вылучэння адзінага таксама ўдзельнічаюць Партыя БНФ, АГП, сацыял-дэмакраты, БХД і партыя левых «Справядлівы свет». Апроч Мілінкевіча, на ролю адзінага таксама прэтэндуе старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Аднак, як паведаміла наша крыніца, ён мае меншыя шанцы прадстаўляць апазіцыю, чым Мілінкевіч.

Яшчэ адзін патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты, намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім, не бярэ ўдзелу ў гэтых перамовах. «Яна пайшла сваім шляхам», — кажа Някляеў.

Аляксандру Мілінкевічу 67 гадоў. Па адукацыі — фізік. Быў намеснікам старшыні Гродзенскага гарвыканкама, калі ім кіраваў Сямён Домаш. Потым сышоў у грамадскі сектар, узначальваў арганізацыю «Ратуша». У 2005-м быў абраны адзіным кандыдатам на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, абышоўшы Лябедзьку. На выбарах Мілінкевіч заняў другое месца. Падтрымліваў, але не ўзначальваў паслявыбарчыя пратэсты на Плошчы.

Мілінкевіч — прадстаўнік не радыкальнай апазіцыі, якой цяпер асцерагаюцца ў сувязі з падзеямі на Украіне.

**Зміцер Панкавец**

**Цытата**



**«Мне дастаткова абаранкаў і квашанай капусты»**

Беларуская спявачка Анжаліка Агурбаш назвала сябе «рускім чалавекам» і ўзяла ўдзел у прапагандысцкай кампаніі Крамля. «Для расейскага чалавека санкцыі — гэта тое ж самае, што мядзведзя палохаць камарамі», — сказала яна, тлумачачы, чаму не баіцца санкцый Захаду. Спявачка сказала, што «нарадзілася ў Беларусі, і ёй дастаткова бульбы, абаранкаў і квашанай капусты, каб пражыць».

# Адыёзнага заходнерусіста Льва Крыштаповіча прыбралі з ІАЦ Адміністрацыі прэзідэнта

Пра адстаўку чыноўніка нічога не паведамлялася ў афіцыйных зводках. Ад 2008 года Крыштаповіч з'яўляўся намеснікам дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта. На сайце ІАЦ прозвішча Крыштаповіча ўжо прыбранае са спісу кіраўніцтва.

У апошнім па часе нумары часопіса «Беларуская думка» надрукаваны артыкул Льва Крыштаповіча і былога міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага «Вялікі верасень», прысвечаны 75-годдзю ўз'яднання Беларусі.

З біяграфічнай даведкі вынікае, што цяпер Леў Крыштаповіч з'яўляецца начальнікам навукова-даследчага аддзела Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва.

Крыштаповіч аўтар кніг «Беларусь як руская святыня», «Беларусь і Расія: гістарыясофскае і цывілізацыйнае адзінства». Уваходзіць у спіс неўязных у Еўрасаюз беларускіх чыноўнікаў. Ён прытрымліваецца заходнерусіцкіх поглядаў, якія ўважаюць рускіх, беларусаў і ўкраінцаў адным народам.

Летась Леў Крыштаповіч атрымаў ордэн Дружбы ад Уладзіміра Пуціна за вялікі ўклад ва ўмацаванне сяброўства і супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй.

**ЗП**

# Усе памочнікі Лукашэнкі: ад сына — да Янчэўскага

Памочніца прэзідэнта Наталля Пяткевіч адпраўленая ў адстаўку «па згодзе бакоў».

Дагэтуль нікога з найвышэйшых эшалонаў улады не выпраўлялі «на адпачынак» з такой інтрыгоўнай фармулёўкай. Гэта не пакідае шанцаў на вяртанне ў Адміністрацыю. Але і пасадка не пагражае. Наталля Пяткевіч можа знайсці сябе ў бізнэсе. Ёй застаецца дом у Драздах і шматлікія ўспаміны.

Апошнія тры гады самая прыгожая чыноўніца Беларусі ўзначальвала канцылярыю Лукашэнкі. Пры ўсёй нягегласці назвы пасады — памочнік прэзідэнта — чалавек на ёй знаходзіцца вельмі ўплывовы, бо мае непасрэдны доступ да «цела» Лукашэнкі. Да Пяткевіч у канцылярыі працавалі былы міністр культуры і дырэктар ПТВ Уладзімір Мацвяйчук, а яшчэ раней — Уладзімір Макей, які з канцылярыі і пайшоў угару па кар'ернай лесвіцы.

Што тычыцца Наталлі Пяткевіч, дык ёй 42 гады. Калісьці яна была прэс-сакратаром Лукашэнкі, а пасля атрымала пасаду ў Адміністрацыі прэзідэнта, дзе адказвала ў тым ліку і за міжнародную палітыку. Многім помніца таямнічы абед Пяткевіч у рэстаране «Фрэскі» з намеснікам памочніка Дзяржсакратара ЗША Дэвідам Крэймерам.

Пяткевіч, хоць і неўязная, але лётала ў Нью-Ёрк на сесіі ААН, у аэрапорце, па яе прызнанні, чыноўніцу трымалі ў «адстойніку». На сваёй апошняй пасадзе адносінамі з ЗША Пяткевіч не займалася. Для гэтага ў Адміністрацыі ёсць іншыя людзі.

Першым мужам Наталлі (дзявочае прозвішча Краўчанка) быў Уладзіслаў Пяткевіч. Сёння ён узначальвае РУП «Нацыянальныя спартыўныя латарэі». У іх ёсць сын Філіп. Другім мужам ёсць вядучы БТ Аляксандр Мартыненка.

Апошняя гучная гісторыя, у якую, магчыма, трапіла Пяткевіч — гэта званок ад пранкера Вавана, які назваўся сынам Януковіча.



З Ваванам размаўляла жанчына з Адміністрацыі, чый голас быў вельмі падобным да голаса Пяткевіч. Магчыма, гэта і стала адной з прычын адстаўкі.

Былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі выказаў здагадку, што Пяткевіч магла не падзяліць штосьці з кімсьці з гульцоў хакейнай каманды прэзідэнта, якія таксама маюць непасрэдны доступ да кіраўніка дзяржавы.

Што за пасада такая — памочнік?

У задачы памочніка ўваходзіць: рэалізацыя рашэнняў прэзідэнта міністэрствамі і ведамствамі, праўдзенне дзяржорганамі дзяржаўнай сацыяльна-эканамічнай, кадравай палітыкі і ідэалогіі, тлумачэнне асноўных кірункаў унутранай і знешняй палітыкі кіраўніка дзяржавы.

Фактычна, памочнікі прызначаныя кантралёрамі, ці, калі казаць слэнгам, «сматрачымі», за іншымі чыноўнікамі. Таксама яны абавязаныя перадаваць кіраўніку дзяржавы аналітычную інфармацыю ў сваім кірунку.

Варта адзначыць, што на пасадзе памочнікаў сабраныя амбіцыйныя 40-гадовыя топ-менеджары. Іх сярэдні ўзрост значна ніжэйшы, чым узрост міністраў ці кіраўнікоў камітэтаў.

### Памочнік па нацыянальнай бяспецы



**Віктар Лукашэнка (у цэнтры) разам з кіраўнікамі КДБ Валерыем Вакульчыкам (справа) і ААЦ Сяргеем Шпегуном.**

Самы вядомы памочнік прэзідэнта — гэта ягоны старэйшы сын Віктар. Ён адказвае за нацыянальную бяспеку. Цікава, што такую адказную пасаду Віктар Лукашэнка заняў у зусім маладым узросце — у 29 гадоў. Цяпер яму ўжо 38.

Віктар рэдка з'яўляецца на тэлеэкранах, застаючыся асобай непублічнай. Толькі калі Лукашэнка прымае чарговага сілавіка, дзесьці ў памяшканні абавязкова прысутнічае памочнік па нацыянальнай бяспецы. Альбо свежыя кадры з Лукашэнкам-малодшым можна адшукаць у навінах краін Персідскага заліва. З рэгулярнай перыядычнасцю ён наведвае то Аман, то Катар, то ААЭ.

Сёння можна смела казаць, што ўсе ключавыя сілавыя пасады займаюць людзі, якіх асабіста падбіраў Віктар Лукашэнка. Крок за крокам ён пазбаўляўся ад старых кадраў. Старэйшага сына Лукашэнкі эксперты называюць другім самым уплывовым чалавекам краіны.

### Памочнік па эканоміцы



Кірыл Руды яшчэ маладзейшы за Віктара Лукашэнку, яму ўсяго 36 гадоў — самы малады ў найвышэйшым кіраўніцтве. Да гэтага пасаду займалі саветчык (ад слова «савецкі») Сяргей Ткачоў, які сышоў у «Амкадор», і пенсіянер Пятро Пракаповіч, якога павысілі ў віцэ-прэм'еры.

Руды зрабіў выдатную навуковую кар'еру. Кандыдатам навук стаў ужо ў 23 гады, а доктарам — у 33. Гэта рэдкі чыноўнік, які мае пэўны замежны досвед. Ён стажыраваўся ў ЗША па праграме Фулбрайта. А перад тым, як быў прызначаны ў Адміністрацыю, пэўны час папрацаваў дарадцам пры пасольстве Беларусі ў Кітаі.

У чэрвені Руды выступіў з праграмным артыкулам, дзе тлумачыў, чаму Беларусі патрэбная новая эканоміка. Ён заклікаў развіваць сферу паслуг і IT як прыярытэтныя. А таксама прапанаваў вяртаць эмігрантаў на радзіму, прапануючы ім пасады.

### Памочнік па замежнай палітыцы



Валерый Брылёў вучыўся на архітэктара, але ўсё ж кар'еру звязаў з дыпламатыяй. Ягоны поспех звязваюць з іменем былога сакратара ЦК і міністра Івана Антановіча — Брылёў ягоны зяць. Яшчэ за савецкім часам Брылёва прызначылі лектарам Дома савецкай культуры ў Югаславіі. Ясна, што абы-каго накіраваць на працу ў замежжа тады не маглі. Пасля развалу СССР Брылёў стаў штатным супрацоўнікам МЗС. Працаваў у Літве, Балгарыі, Югаславіі. У апошняй краіне ён быў паслом, калі скідалі дыктатара Слабадана Мілошавіча. На пасадзе памочніка прэзідэнта пакуль што публічна сябе не праявіў.

### Памочнік па ідэалогіі




Усевалад Янчэўскі ўзначальвае Ідэалагічнае ўпраўленне Адміністрацыі прэзідэнта ўжо шэсць гадоў. Быў кіраўнік БРСМ. Яму прыпісваюць цеснае сяброўства з Віктарам Лукашэнкам.

Міхаіл Мясніковіч называе яго ў пераліку тых чыноўнікаў, якія «значна перавышаюць сярэдні ўзровень».

### Памочнік па спорце



Кар'еру Максім Рыжанкоў пачынаў як дыпламат. Працаваў у Ізраілі і Польшчы, у цэнтральным апараце МЗС, быў начальнікам Упраўлення замежнай палітыкі пры Адміністрацыі прэзідэнта. Але ў 2012 годзе стаў «ахвярай» спартовай рэформы, калі гэтую галіну аддалі людзям звонку: эмэнэсніку Шамко, памежніку Рачкоўскаму і дыпламату Рыжанкову.

Для Максіма спорт — не чужая сфера, бо ягоны бацька Уладзімір быў першым міністрам спорту незалежнай Беларусі. Дарэчы, у спартыўных колах усё часцей вядуцца размовы, што Міністэрства спорту і турызму ў хуткім часе якраз і ўзначаліць Рыжанкоў-малодшы. Працай Шамко наверсе не задаволеныя.

### Памочнік па асаблівых даручэннях



Апошнім чалавекам, які займаў гэтую пасаду, быў Віктар Шэйман. Пасля прызначэння Шэймана ў Кіраўніцтва справаў прэзідэнта гэтае крэсла ніхто не займаў.

Шэйман адказваў за адносіны з Лацінскай Амерыкай, Афрыкай і Азіяй. Найчасцей ягоную місію звязвалі з продажам зброі. За Шэйманам цягнецца доўгі шлейф не самых прыемных гісторый.

Яшчэ раней памочнікам па асаблівых даручэннях былі Міхаіл Мясніковіч і вайсковец-дэпутат Віктар Кучынскі.

**Зміцер Панкавец**

**Інспектары па абласцях**

Таксама памочнікаў Лукашэнка мае ў кожнай з абласцей краіны і ў горадзе Мінску.

Па Брэсцкай вобласці — Дзмітрый Гобараў, былы старшыня Магілёўскага гарвыканкама;

Па Віцебскай вобласці — Мікалай Шэрстнеў, былы дырэктар «1-ай Мінскай птушкафабрыкі»

Па Гомельскай вобласці — адсутнічае;

Па Гродзенскай вобласці — Уладзімір Даманеўскі, былы старшыня Слуцкага райвыканкама;

Па Мінскай вобласці — Мікалай Корбут, былы кіраўнік Кіраўніцтва справаў прэзідэнта;

Па Магілёўскай вобласці — Генадзь Лаўранкоў, былы кіраўнік Кіраўніцтва справаў прэзідэнта;

Па Мінску — Аляксандр Якабсон, былы старшыня КДК, былы старшыня Гомельскага аблвыканкама.

# Анатоль Калінін скончыў універсітэт у 34 гады і стаў трэцім чалавекам ва ўрадзе

**Гісторыя поспеху** віцэ-прэм'ера.

У структуры беларускага ўрада пяць віцэ-прэм'ераў. Уладзімір Сямашка вядзе перамовы па нафце і газе. Герой Беларусі Пятро Пракаповіч размяркоўвае дзяржаўныя рэсурсы. Анатоль Тозік фантаніруе ідэямі. А Міхаіл Русы вінавата ўсміхаецца, калі яго ў чарговы раз крытыкуе Лукашэнка.

А ёсць яшчэ Анатоль Калінін. Ён курыруе будаўніцтва і камунальшчыкаў — сферы, да якіх у людзей найбольш прэтэнзій. Але пры гэтым ён не засвяціўся ні ў адной скандальнай гісторыі, не даў бадай ніводнага інтэрв'ю па непрацоўных пытаннях. Хто ён і адкуль?

### Не цыган, а сібірак

Калі набраць у інтэрнэце імя «Анатоль Калінін», то пошукавая сістэма Google адразу падказвае: «цыган». Такія чуткі пра чыноўніка ходзяць даўно: віцэ-прэм'ер выглядае самым смуглым у беларускім урадзе.

«Ён такі, як цыганё», — смеючыся, пагаджаецца стрыечная сястра Надзея Скачкова. І расказвае, што Анатоль насамрэч падобны да бабулі-сібірачкі. Дый ягоныя дзеці таксама смуглыя.

А што да чутак у інтэрнэце, то тлумачэнне простае: поўны цёзка віцэ-прэм'ера, дански пісьменнік Анатоль Калінін, напісаў у савецкія часы раман «Цыган».

### Забруджаная зона

Малая радзіма Калініна — Краснаполле. Раён трапіў у лік тых, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы. Колькасць насельніцтва ў мястэчку скарацілася да 6 тысяч чалавек, а ўсе прамысловыя прадпрыемствы закрыліся. Мясцовыя жыхары жывуць у чаканні адкрыцця новага фізкультурнааздараўленчага комплексу. Капсулу з пасланнем нашчадкам на месцы ягонага будаўніцтва Анатоль Калінін заклаў год таму. Чырвонае двухпавярховае збудаванне ўжо цяпер выдзяляецца на фоне шэрага мястэчка.

Віцэ-прэм'ер штогод прыязджае ў Краснаполле на Радаўніцу, каб наведаць магілы бацькоў. Былы дом сям'і знаходзіцца якраз непадалёк ад гарадскіх могілак, аднак пра Калініных у хаце не нагадвае нічога. Новая гаспадыня, усміхаючыся, паказвае адзіны знойдзены артэфакт — надрапаны надпіс «Толя» на дошцы ў лазні.

Сам Калінін пры патрэбе спыняецца на начоўку ў стрыечнай сястры. «Ляжам валетам і размаўляем пра жыццё. Мы нават не лічым, што стрыечныя, — прызнаецца яна. — Як родныя».

Маці чыноўніка ўсё жыццё працавала сястрой-гаспадыняй у раённай бальніцы, а вось бацька быў цесляром. Гэта ягоны род паходзіў з Сібіры. У сям'і падрастала двое сыноў, старэйшы Яўген і малодшы Анатоль.

### Без прагі да вучобы

Непадалёку ад дома Калініных знаходзілася школа, тая самая, якая прынесла Краснаполлю трагічную вядомасць. У канцы 1990-х навучальная ўстанова была цалкам перабудаваная. Ці то праз памылку праекціроўшчыкаў, ці то праз надзвычайныя метэаўмовы менавіта ў ёй 27 студзеня 2004 абваліўся дах, пахаваўшы пад сабой аднаго з вучняў і настаўніка фізкультуры.

У школе будучы віцэ-прэм'ер вучыўся сярэдне, узгадвае ягоны аднакласнік і найлепшы сябар Анатоль Клюеў. Працягваць адукацыю ён не збіраўся і пайшоў працаваць кіроўцам на аўтабазу райспажыўсаюза. Вазіў начальніка. Той і пераканаў хлопца паступаць. У біяграфіі віцэ-прэм'ера вучоба ў магілёўскім вучылішчы не ўзгадваецца. Затое якраз ёсць «дзірка» на некалькі гадоў між службай у войску (Калінін апынуўся ў Полацку) і пачаткам працы ў краснапольскай райаграпрамтэхніцы.

### Жонка — з культурнай сферы

Тым часам Анатоль пабраўся шлюбам са сваёй аднагодкай Тамарай Савік. Дзяўчына вырасла ў Івацэвіцкім раёне, а ў Краснаполлі апынулася па размеркаванні. Тамара працавала ў клубе масавікомзабаўнікам.

Яна скончыла Магілёўскае вучылішча культуры, а з цягам часу яшчэ і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтва. Аднак у гэтай сферы вялікіх грошай не заробіш.

Калі муж узначальваў баранавіцкі водаканал, жонка была інжынерам па інавацыйнай працы. Цікава, што пасля прызначэння Анатоля ў Мінск Тамара не збіралася сыходзіць з працы і пераязджаць у сталіцу. «Мяне ж ніхто нікуды не прызначаў», — казала яна журналістам баранавіцкай газеты «Інтэкс-Прэс».

### Пераезд на захад

У Краснаполлі сям'я жыла да 1990 года, а пасля пераехала ў Баранавічы, дзе Анатоль узначаліў адзін з ЖЭСаў. Што прымусіла рэзка змяніць абстаноўку?

Сястра чыноўніка ўзгадвае, што ў Баранавічы перабраўся сябар Калініна, які і клікаў яго да сябе. У аднакласніка Анатоля Клюева іншая версія. Ён выказвае здагадку, што сям'я проста пераехала бліжэй да родных мясцінаў Тамары.

Зрэшты, пасля Чарнобыля з забруджанага Краснаполля ўцякалі многія, хто клапаціўся пра сябе і здароўе дзяцей.

### 34-гадовы студэнт

Паводле афіцыйнай біяграфіі, віцэ-прэм'ер мае дзве вышэйшыя адукацыі. У 1993-м Калінін атрымаў дыплом у сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. На той момант яму было ўжо 34 гады — рэкорд сярод цяперашніх беларускіх чыноўнікаў вышэйшага рангу. Калінін тады ўзначальваў адзін з ЖЭСаў у Баранавічах. Прычым спецыфіка яго працы ніяк не спалучалася з атрыманай спецыяльнасцю. У Горках ён атрымаў веды па... механізацыі сельскай гаспадаркі.

Другі дыплом Калінін атрымаў у Акадэміі кіравання. За год да пераезду ў Мінск 49-гадовы баранавіцкі камунальшчык вывучыўся па спецыяльнасці «дзяржаўнае і мясцовае кіраванне». Такую самую перападрыхтоўку прайшлі дзясяткі іншых чыноўнікаў.

### Паспяховы менеджар

Баранавіцкім водаканалам Калінін кіраваў эфектыўна. Яго заўважылі, і праз паўтара дзесяцігоддзя прызначылі памочнікам Аляксандра Лукашэнкі — інспектарам па Мінску. Калісьці такі ж узлёт з Баранавічаў у сталіцу здзейсніў іншы чыноўнік — старшыня баранавіцкага гарвыканкама Міхаіл Паўлаў. Але кар'ерны рост Калініна быў больш нечаканым і для паспалітага люду невытлумачальным.

«Лукашэнка першы раз прыехаў, відаць, прапанаваў яму, другі раз прыехаў, а на трэці і не пытаўся — перавёў», — такую версію прапануе сястра Калініна Надзея Скачкова. «Не адразу пагадзіўся?» — «Ну, маўчаў — і ўсё».

Іншая папулярная версія — хакейная. Калінін заснаваў у Баранавічах аматарскую каманду. Гуляў у ёй і сам, праўда, не надта ўдала. Тым не менш, пад ягоным кіраўніцтвам «Баранавічы» ўваходзілі ў тройку прызёраў на міжнародным турніры. Ведаючы любоў да гэтага віду спорту Аляксандра Лукашэнкі, многія звязваюць хакейныя і наменклатурныя перамогі Калініна.

«Калі людзі мяркуюць, што нейкія сувязі дапамаглі, то яны моцна памыляюцца. Яго проста рэкамендавалі як добрага работніка», — пераконвае аднакласнік віцэ-прэм'ера Анатоль Клюеў.

Калініна некалькі разоў прызнавалі ў Баранавічах Чалавекам года.

### Сталічны чыноўнік

Не маючы свайго жылля, у Мінску чыноўнік спачатку пасяліўся на тэрыторыі прэзідэнцкай рэзідэнцыі «Драздоў». У прыватнасці, туды да яго прыязджаў ягоны брат Яўген Калінін, які працуе на Запарожскай АЭС ва Украіне.

А менш чым праз год Калініну ў Мінску выдзелілі зямлю пад будаўніцтва. Тут жа, у Драздах. Ён трапіў у кампанію былога памочніка Лукашэнкі, а цяпер намесніка міністра замежных спраў Валянціна Рыбакова і старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы. Шыкоўнае месца: прэстыжны раён, найлепшая інфраструктура і водаахоўная зона Свіслачы.

Сястра чыноўніка расказвае, што Калінін з жонкай пасяліліся ў катэджы, а камусьці з дзяцей пакінулі сталічную кватэру. Старэйшая, Алёна, па словах сваячкі, стала дзіцячым доктарам, а малодшы сын, Віталь, займаецца бізнэсам. Анатоль Калінін тройчы дзядуля. Сёлета яго старэйшая ўнучка пайшла ў першы клас.

«Нармальны хлопец. Неяк жа прабіўся! Пашанцавала. Бог добрым людзям дае», — апісвае Надзея Скачкова кар'еру свайго стрыечнага брата некалькімі фразамі.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**



**Анатоль Калінін — у цэнтры.**



**Анатоль і Тамара Калініны.**

**Даведка**

Анатоль Калінін нарадзіўся 21 чэрвеня 1959 у Краснаполлі Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1993) і Акадэмію кіравання (2008).

Быў шафёрам у аўтабазе райспажыўсаюза Краснаполля (1976–1977), служыў у войску (1977–1979). У 1983–1988 працаваў інжынерам-тэхнолагам, галоўным інжынерам райаграпрамтэхнікі Краснаполля, у 1988–1990 — намеснік дырэктара, а пасля дырэктар Краснапольскага раённага аб'яднання ЖКГ. У 1990–1995 — начальнік ЖЭСа ў Баранавічах, у 1995–2009 — дырэктара баранавіцкага «Водаканала».

У 2009–2010 — памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па Мінску, з 2010 — віцэ-прэм'ер.

**Заявы Калініна-чыноўніка**

Пра будаўніцтва

Я прапанаваў бы з 2015 года ў Мінску практычна не будаваць камерцыйнае жыллё — толькі арэнднае жыллё і па дзяржзамове.

Пра штрафы

Я таксама часам люблю [парушыць хуткасць], і мне прыходзяць «лісты шчасця». Праўда, я езджу на машыне дзяцей, таму лісты прыходзяць ім.



**Land Cruiser каля Нацыянальнага прэс-цэнтра падчас прэс-канферэнцыі Калініна.**



**Рынкавы кошт катэджа з відам на вадасховішча Драздны — каля $1 мільёна.**

# Паўтары тысячы чалавек сабраліся на Дзень вышыванкі ў Мінску

Дзень беларускай вышыванкі арганізавала кааліцыя беларускіх недзяржаўных арганізацый у межах кампаніі «Зробім лепш». Гэта першая такая імпрэза ў Мінску. Яна адбылася ў творчай прасторы «ДК» на вуліцы Талбухіна.

На Дні вышыванкі прадавалі нацыянальнае адзенне, сувеніры. Прайшлі майстар-класы па вышыўцы ды кераміцы. Выступалі музыкі. Дзень вышыванкі асабліва спадабаўся моладзі і дзецям.

**Ірына Арахоўская, фота аўтара.**









РАДЫЁ «СВАБОДА»

**На імпрэзу нават завітаў спецназавец з вайсковай часткі 3214.**



## Дзяўчына ў Гродне раскідвала ўлёткі «Вярніце Крым Украіне»

Вольга Крапоціна — эканаміст ва ўпраўленні спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама. Але яна трошкі адрозніваецца ад звычайных дзяржслужбоўцаў. Рэдкі дзяржслужачы стане раздаваць самаробныя ўлёткі з надпісам «Вярніце Крым Украіне!». А Вольга менавіта за гэта і трапіла ў міліцыю.

«Я пачала рабіць гэтыя ўлёткі, як толькі пачаліся баявыя дзеянні на ўсходзе Украіны. І, шчыра кажучы, трошкі сама сябе здзівіла — бо звычайна я вельмі спакойны чалавек. Але ж тут я зразумела, што не магу нічога не рабіць», — расказвае Вольга.

Усе ўлёткі разам з ноўтбукам Крапоцінай канфіскавалі. Нейкі час дзяўчына насіла гэтыя ўлёткі з сабой, і калі ёй траплялася на вочы машына з расейскімі нумарамі, яна клала адну-дзве пад дворнікі. Але 19 верасня нейкі мінак, заўважыўшы гэта, вырашыў умяшацца.

«Яго даволі складана было зразумець, — прызнаецца Вольга. — Але з яго слоў мне падалося, што да яго ўжо прыходзілі мясцовы ўчастковы з пытаннем, ці не ведае ён, хто гэтыя ўлёткі раскладвае».

Мужчына пачаў хапаць Вольгу за рукі і перашкаджаць праходу. У адказ на гэта яна прыстрашыла мужчыну міліцыяй.

«Ён пагадзіўся выклікаць міліцыю.Такім чынам мы выйшлі ўсё ж са двара, дзе гэта ўсё адбывалася, на вуліцу Савецкую. І так атрымалася, што там непадалёк ад нас гэты мужчына заўважыў міліцыянтаў».

Ён паклікаў іх, і Вольга паехала ў найбліжэйшы апорны пункт. Там пасля нядоўгай гутаркі на яе склалі пратакол допыту. Улёткі, само сабой, былі канфіскаваныя. Затым міліцыянты завіталі ў інтэрнат, дзе жыве Крапоціна, і правялі тамператрус. Улётак больш не знайшлося, таму супрацоўнікі праваахоўных органаў канфіскавалі Вольжын ноўтбук і сышлі.

«Што там далей будзе, ці пагражае мне нейкі штраф — я не ведаю. Мне ніхто не тэлефанаваў, — кажа дзяўчына. — Ноўтбук пакуль што ў міліцыі. Калі мне яго аддадуць, таксама невядома».

На працу Крапоцінай ніякіх папер з міліцыі таксама не прыходзіла. Але, мяркуе яна, начальнік усё ведае пра яе прыгоды. На шчасце, ніякіх наступстваў пакуль што дзеянні Вольгі не выклікалі.

**Улад Швядовіч**

## А ці быў хлопчык з георгіеўскай стужачкай?

Следчы камітэт: «Мы не ведаем гісторыю пра напад на дзіця з георгіеўскай стужкай».

Інфармацыя аб інцыдэнце з'явілася 29 верасня на інфармацыйным партале tut.by са спасылкай на допіс у сацыяльных сетках. Паводле матэрыялу, 26 верасня мінчучка Алена набыла ў «Кароне», што ў гандлёвым цэнтры «Замак», пакунак георгіеўскіх стужак. Аднак на выхадзе з гандлёвага цэнтра нейкі хлопец вырваў стужку ў дзіцяці, моцна яго штурхнуўшы. Пачалася бойка, у выніку Алена моцна ўдарыла хлопца і трапіла разам з ім у Цэнтральны РУУС — сцвярджаецца ў матэрыяле.

Пры гэтым не называецца ні імя хлопца, ні прозвішча Алены. Спасылка на допіс у Фэйсбуку, як і скрыншот самога допіса, адсутнічаюць. Калі капнуць крыху глыбей, то гісторыя пачынае выглядаць на правакацыю.

«Мы не гандлюем георгіеўскімі стужкамі. І не маем планаў іх завозіць», — гавораць у інфацэнтры «Кароны», згаданай у скандальнай публікацыі.

У прэс-службе Цэнтральнага РУУС Мінска, куды, паводле публікацыі, даставілі Алену разам з дзіцёнкам і пабітым ёй ненавіснікам георгіеўскіх стужак, пра гэтую гісторыю таксама не чулі.

А Следчы камітэт Беларусі нават распаўсюдзіў афіцыйную заяву, згодна з якой у СК не валодаюць ніякай інфармацыяй аб інцыдэнце.

Рэдактар партала tut.by Марына Золатава выказалася аб сітуацыі. «Прызнаю, дапусцілі памылку: і журналіст, і рэдактар, і галоўны рэдактар, які недагледзеў. Па-першае, ні ў загалоўку, ні ў лідзе не было спасылак на крыніцу інфармацыі (як паказана ў нататцы, аўтар паста яго выдаліла ўжо пасля нашай публікацыі з-за агрэсіўных каментароў), па-другое, не дачакаліся афіцыйнага каментара. За тэмай сочым, працяг будзе», — напісала Золатава ў Фэйсбуку.

**Алесь Пілецкі, Еўрарадыё**

## Памёр легендарны паўабаронца «Спартака» Фёдар Чаранкоў

Яму было 55 гадоў.

Чаранкоў правёў рэкордную колькасць матчаў за «Спартак» — 515.

За кар'еру ён тройчы станавіўся чэмпіёнам СССР, выйграваў бронзу Алімпіяды-1980 і бронзу чэмпіянату Расіі 1993 года. Заўзятары любілі яго за шчырасць у гульні і за шыбутны характар.

Пасля заканчэння кар'еры Чаранкоў засяродзіўся на трэнерскай дзейнасці, але ў апошнія гады адышоў і ад яе. Тым не менш, ён часта ўдзельнічаў у мерапрыемствах ветэранаў «Спартака» і нярэдка сам выходзіў на поле. Адзін са сваіх апошніх матчаў Фёдар правёў на полі ў пачатку верасня гэтага года.

Як паведамляе партал mk.ru, Фёдар Чаранкоў 22 верасня каля свайго пад'езда страціў прытомнасць і стукнуўся галавой.

«Хуткую» да футбаліста выклікалі выпадковыя мінакі. Чаранкова даставілі ў найбліжэйшую гарадскую бальніцу, дзе спачатку дактары дыягнаставалі ў яго прабадзенне язвы страўніка, але, правёўшы больш дэталёвае абследаванне, сышліся ў меркаванні, што ў Чаранкова гіпатанія (непрытомнасць) невядомага генезу.




За два тыдні знаходжання ў бальніцы Чаранкоў ачуняў, але свядомасць да яго так і не вярнулася. Расказаць пра сябе, пра тое, што з ім здарылася, легендарны спартсмен не змог.

**АГ**

# Зло побач з намі

**Жыхар Гомеля забіў свайго двухгадовага сына.**

У канцы верасня Вярхоўны суд разгледзеў касацыйную скаргу 29-гадовага жыхара Гомеля, які жорстка забіў свайго сына. Прысуд застанецца нязменны: 25 гадоў пазбаўлення волі.

Дзіця — двухгадовае! — больш за 40 разоў ударылі рыбацкім нажом. У галаву, шыю, грудную клетку. Забойца спрабаваў даказаць у судзе, што не памятае моманту злачынства, але аб'ектыўныя дадзеныя — доказы, вынікі экспертызы — сведчаць аб іншым. Так, абвінавачаны быў п'яны, але не настолькі, каб не ўсведамляць, што адбываецца.

Малады мужчына, «галава сям'і», перманентна нідзе не працаваў. Як сведчыла яго жонка на судзе: «Ён казаў, што працуюць толькі дурні». Піў, скандаліў. Жонка была вымушана выйсці на працу датэрмінова з дэкрэтнага адпачынку з-за хранічнага недахопу грошай. Двухгадовага сына глядзеў бацька, прычым сваім сваякам і знаёмым любіў скардзіцца: маўляў, вось, сына і кармлю, і гуляю з ім, а жонка сякая-такая. Жаліўся дарослы мужчыні на тое, што яму сумна, а жонка мала надае яму ўвагі.

11 студзеня маладая жанчына пайшла на працу. Хоць у яе і быў у гэты дзень выходны, але калега раптам захварэла і папрасіла яе падмяніць. Кабета згадзілася, але папярэдзіла, што выйдзе на замену толькі з дазволу мужа. Калега патэлефанавала, і той велікадушна даў дазвол жонцы папрацаваць. Сам жа застаўся даглядаць сына, прычым не забыўшыся пахмяліцца зранку. Піў ён, па яго ж паказаннях, з 25 снежня, беспрабудна, аж да моманту жахлівага злачынства, Новы год і абодва Нараджэнні Хрыстовы.

«11 студзеня, прыкладна з 16 да 18 гадзін, абвінавачаны, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, з асаблівай жорсткасцю, з-за раптоўнай непрыязнасці, нанёс нажом свайму малалетняму сыну 2011 года нараджэння множныя ўдары ў вобласць жыццёва важных органаў, а менавіта: не менш за 21 удар у грудную клетку, не менш за 6 удараў у галаву, не менш за 11 удараў у шыю, а таксама не менш 2-х удараў тупым прадметам. У выніку чаго ад атрыманых цялесных пашкоджанняў, якія выклікалі вострую масіўную страту крыві, хлопчык памёр на месцы злачынства», — сведчыць абвінавачванне.

Па словах забойцы, ён прачнуўся ў сваёй кватэры, убачыў каля сябе нож і дзіця, якое не дыхала. Праз п'яны туман усвядоміў, ці ўспомніў, што сам і здзейсніў жахлівае нечалавечае злачынства. Вырашыў забіць сябе — рэзаў вены, ды няўдала, пісаў бязглуздыя «перадсмяротныя» запіскі, у якіх нават абражаў жонку. На судзе даводзіў, што быў у афекце ці стане хваравітай псіхікі.

Потым патэлефанаваў жонцы, сказаў, што забіў сына. Прыехала міліцыя, супрацоўнікі якой сталі сведкамі жахлівай карціны: знявечанае цела дзіцяці, нож у крыві, п'яны забойца, які нешта балбатаў пра «чарцей і зданяў».

Па словах жонкі, абвінавачаны перыядычна прасіў яе схадзіць у краму і купіць гарэлкі. Калі яна адмаўлялася, пачынаў крычаць, скандаліць, мог і ўдарыць. Калегі маладой жанчыны сведчылі, што яна з'яўлялася на працу з сінякамі, па званку мужа бегла дахаты. Кабету суседзі і калегі характарызавалі станоўча, у адрозненне ад яе мужа. Той мог распачаць скандал ля пад'езда, напрыклад, за тое, што жонка неяк не так выкаціла каляску з дзіцём.

Маці маладой жанчыны сведчыла на судзе, што зяць не жадаў працаваць, казаў, што хворы, стараўся ва ўсіх выклікаць да сябе шкадаванне. На заўвагі цешчы пра ўжыванне спіртнога агрызаўся. Яе дачка, як потым сама прызнавалася, баялася мужа. Аднойчы ўцякла ад яго да маці. Ён прыехаў услед, пагражаў спаліць увесь пасёлак, калі жанчына не вернецца дахаты.

Маці абвінавачанага таксама дапыталі ў судзе. Жанчына паказала, што сын яе рос «звычайным чалавекам». З рысаў характару можа адзначыць лішні, на яе погляд, педантызм да рэчаў і іх разважанне, раздражняльнасць з гэтай нагоды, якая знаходзіла выхад у крыку.

У дзень забойства абвінавачаны тэлефанаваў сваёй маці, скардзіўся, што яму сумна, няма з кім пагаварыць. Ён і раней настойліва патрабаваў ад сямейных увагі, рознымі спосабамі спрабаваў выклікаць шкадаванне.

Суд, зыходзячы з паводзін забойцы на следстве і судовым паседжанні, прыйшоў да высновы, што забойца не раскаяўся ў сваім злачынстве, толькі спрабаваў зменшыць пакаранне і ўхіліцца ад адказнасці, калі сцвярджаў, што нічога не памятае.

Эгаіст, лайдак і п'яніца, з аднаго боку, і цярплівая жонка, якая моўчкі зносіла яго выбрыкі. Гэтая сямейная драма, звыклая для многіх беларускіх сем'яў, мела трагічны, нечалавечы фінал.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

**Калі здараюцца трагедыі?**

Па статыстыцы, у Беларусі большасць мужчын-агрэсараў — гэта беспрацоўныя, рабочыя ці пенсіянеры. Большасць «бытавых» забойстваў здзяйсняюцца ў суботу і нядзелю, з 18 і да 24 гадзін.

Толькі за 8 месяцаў 2014 года ў Беларусі ў выніку сямейных скандалаў было забіта 49 чалавек, 68 атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні. Амаль 90% агрэсараў — п'яныя.

# Ганебная смерць былога дэсантніка

**Ураджэнец Мастоў вярнуўся з Масквы, дзе папрацаваў ахоўнікам. І вырашыў «узяць» абменнік.**

Абменнік, які спрабавалі абрабаваць 1 кастрычніка, знаходзіцца ў сталічным гандлёвым цэнтры «Шчасце», каля станцыі метро «Усход». Гэта сціплы двухпавярховы будынак з дзясяткамі звычайных крамак.

Як расказваюць прадаўцы, усё адбылося ў лічаныя хвіліны. Хлопец прагульваўся па гандлёвым цэнтры ў капюшоне. Таму на яго звярнулі ўвагу. Але не да такой ступені, каб выклікаць міліцыю, бо нічога кепскага ён не рабіў. Роўненька а 13, калі касірка мусіла выйсці на абед, ён нацягнуў маску. І як толькі адчыніліся дзверы — кінуўся на дзяўчыну з пісталетам.

На крык 18-гадовай касіркі збегліся людзі. Яны і замкнулі дзверы абменніка, каб нападнік не выскачыў. Такога ён не прадбачыў. Думаў забраць грошы, а аказаўся ў пастцы. І дурань не прыдумаў нічога лепшага, як узяць у закладнікі дзяўчыну. Патрабаваў даць яму магчымасць сысці з грашыма.

Тры гадзіны з ім вялі перамовы. А пасля байцы спецпадраздзялення МУС па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» правялі сілавую аперацыю. Стралялі ў нападніка зверху, каб абясшкодзіць. Але куля пайшла ў галаву. Ён пажыў яшчэ суткі і сканаў у бальніцы.

Там і высветлілі, што няшчасны — 23-гадовы жыхар Мастоў. Ён адслужыў у дэсанце ў Брэсце. Затым працаваў ахоўнікам у Маскве. А калі вярнуўся на радзіму, на працу ўладкоўвацца не стаў.

Дзяўчына ж у абменніку адпрацавала ўсяго тры месяцы, і вось такі пераплёт. Шчасце, што хоць не пацярпела.

**Кастусь Матушыч**




СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Сцісла

**Псіх натуральны**

2 кастрычніка у 21.45 у Оршы ў міліцыю паведамілі, што мужчына з нажом рвецца ў кватэру да былой жонкі. Міліцыя — да яго, ён — з нажом на міліцыянта, параніў яго ў грудзі і шыю. Прыйшлося страляць. У выніку 41-гадовы дэбашыр сканаў на месцы. Аказалася, ён ад 2000 года стаяў на ўліку ў псіхдыспансеры. Вось з такімі тыпамі даводзіцца мець справу міліцыі.

**Крутая кара «SMS-мінёру»**

Канстанціна Сіманава арыштавалі, калі ён паслаў дурную эсэмэску, дзе пажартаваў, што хоча ўзарваць метро. Сталі капаць, і накапалі столькі... Яго прызналі вінаватым у «палавых зносінах насуперак волі пацярпелай з прымяненнем гвалту да жанчыны — згвалтаванні заведама непаўналетняй», у дзеяннях сэксуальнага характару з асобай, якая дасягнула 16-гадовага ўзросту, у дэманстрацыі фільма парнаграфічнага характару непаўналетняй, у загадзя лжывым паведамленні пра выбух, які рыхтуецца. Сіманаў віны не прызнаў. А сядзець у калоніі будзе 9 гадоў.

**Разбіўся знішчальнік**

30 верасня ў Лідскім раёне пацярпеў крушэнне самалёт Су-25. Лётчык катапультаваўся. Заведзена крымінальная справа за парушэнне правілаў палётаў і падрыхтоўкі да іх.

**Падпаліў машыну жонкі**

Муж і жонка з Баранавіч раз'ехаліся. Каб жанчына не звярталася ў суд з заявай аб спагнанні аліментаў на двух іх непаўналетніх дзяцей, той даў ёй тысячу долараў для набыцця аўто. Жанчына купіла «Фальксваген», але падала і на аліменты. Тады мужчына ў адплату жончыну машыну спаліў. За такі ўчынак яго асудзілі на 3 гады калоніі.

**Трапіла пад цягнік і проста ўдарылася**

Маладая мама вяла дзіцё ў садок у Бабруйску. На чыгуначным пераездзе яна прапусціла адзін цягнік, але не паглядзела, што з іншага боку ехаў другі — і пайшла. Але ў кашулі нарадзілася: сама яна ўсяго толькі траўмавала галаву, а дзіця зусім не пацярпела.

**Былога мэра Вілейкі амніставалі**

Яўгена Сінілу падазравалі ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Будаўнікі ў працоўны час «шабашылі» на мэравай фазэндзе — без афармлення дамоваў аб аплаце. Але, як паведаміла прадстаўніца ўпраўлення СК па Мінскай вобласці Таццяна Беланог, крымінальны пераслед Яўгена Сінілы спынілі па амністыі.

**КМ**

# Праз 5 мільярдаў гадоў сутыкнуцца галактыкі

Навукоўцы паспрабавалі **змадэляваць сітуацыю**.

Вучоныя-астраномы з НАСА падлічылі, што прыкладна праз 5 мільярдаў гадоў чалавецтва чакае незвычайная падзея — наша галактыка Млечнага Шляху сутыкнецца з галактыкай Андрамеды. У выніку гэтага Сонца можа перамясціцца ў іншую частку галактыкі, аднак Зямля і Сонечная сістэма, найхутчэй, перажывуць падзею без стратаў. Адзінае, што моцна зменіцца — карціна зорнага неба.

Што будзе адбывацца ў момант сутыкнення, можна дазнацца толькі ў выніку разлікаў складаных касмалагічных матэматычных модуляў, якія ўлічваюць нават самыя дробныя нюансы, уключаючы працэсы зліцця дзвюх чорных дзірак у адну звышвялікую. Такая тэхналогія была створаная навукоўцамі з Міжнароднага цэнтра радыёастранамічных даследаванняў, які знаходзіцца ў Заходняй Аўстраліі.


Так будзе выглядаць зорнае неба перад сутыкненнем.

Паколькі галактыка Андрамеды большая (1 трыльён зорак — супраць 300 мільярдаў у Млечнага шляху), яна паглыне нашу галактыку. Гэтак сама раней Млечны Шлях паглынуў галактыкі Вялікага і Малога Магеланавых Аблокаў. Новую аб'яднаную галактыку навукоўцы назвалі Milkomeda. Па форме Milkomeda будзе нагадваць мяч для рэгбі.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**


Сяргей Гудзілін

**У Мінску паставілі помнік першай настаўніцы**

2 кастрычніка ў Мінску, каля ўвахода ў галоўны корпус БДПУ, паставілі скульптурную кампазіцыю «Настаўніца першая мая».

5 кастрычніка ў Беларусі адзначылі Дзень настаўніка. Вы не забыліся павіншаваць любімых педагогаў?

# У Беларусі адзначаны новы від птушак — пячураўка-зарнічка

Яе выявіў арнітолаг **Дзяніс Кіцель**. Адкрыццё было зроблена ў вёсцы Сасновы Бор Расонскага раёна.

«У гэтых месцах жыве шмат птушак, але я прыехаў менавіта за зарнічкай, таму што апошнім часам назіраецца шмат рэгістрацый гэтага віду ў суседніх краінах. І я падумаў: можа, і ў нас ёсць?» — расказаў Кіцель.

У Беларусі зарэгістраваны чатыры віды пячуравак: пячураўка-трашчолка, пячураўка-ценькаўка, пячураўка-будаўнічок і зялёная пячураўка, адзначылі ў арганізацыі «Ахова птушак Бацькашчыны». У верасні-кастрычніку пячураўкі ляцяць з Еўропы на зімоўку ў Азію і Афрыку, аднак Беларусь звычайна не ляжыць на шляху іх міграцыі.



Раней Дзяніс Кіцель першым выявіў у Беларусі яшчэ два віды птушак: горную пліску (у 2009 годзе) і чайканосую крычку (у 2012). У перспектыве арнітолаг плануе знайсці таксама каральковую пячураўку, пячураўку-талаўку і стрынаткурэмез.

У Беларусі на сёння афіцыйна зарэгістраваныя 323 віды птушак. Яшчэ пяць відаў, уключаючы пячураўкузарнічку, чакаюць рэгістрацыі ў Беларускай арнітафаўністычнай камісіі.

**БелаПАН**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Развітанне на барыкадах

Прачытаў кніжку «Время несбывшихся надежд» — пра беларускую журналістыку 90-х, складзеную з успамінаў тагачасных рэдактараў і супрацоўнікаў незалежных СМІ.

Не ведаю, якім крытэрыем кіраваліся складальнікі, калі адбіралі для зборніка суразмоўцаў, але ўрэшце атрымалася тое, што фатальна атрымліваецца са звычайнымі мемуарамі: побач з цікавымі назіраннямі, досведам і высновамі — звядзенне рахункаў, вызначэнне вінаватых — ад улады да калег, самаўхваленне, дзе-нідзе корпанне ў брудным бялізне... Горш за ўсё — самаапраўданне сумнеўных у этычным сэнсе паводзінаў тых ці іншых асоб.

Не ратуе ад гэтага ўражання і намаганне складальнікаў асэнсаваць увесь стракаты матэрыял, раскласці яго па паліцах, каб дапамагчы чытачу дакладна зразумець, дзе надзеі, што не спраўдзіліся, і чаму, а дзе чыесьці ўласныя амбіцыі, ад якіх засталіся толькі што ўспаміны...

Аднак успаміны — дык успаміны.

Мае ўспаміны распасціраюцца ў нашым выпадку да 1976 года, калі жыццё ці то абдарыла, ці то пакарала сабкорствам у газеце «Труд». З усіх падрабязнасцей пачатку той працы, мо нават і цікавых, засяроджуся на першай праблеме, з якой сутыкнуўся: ЦК КПСС упершыню лімітаваў падпіску на «Труд», бо яна перавысіла падпіску на «Праўду». Тое, канечне, афіцыйна не прамаўлялася, але было відавочна.

Што тут пачалося! Лісты, званкі, тэлеграмы — са ўсяго Саюза, асабістыя, калектыўныя... І ў маім карпункце дзверы не зачыняліся. Ішлі цэлымі дэлегацыямі — наклад «Труда» ў тагачасным БССР перавышаў наклад усіх, разам узятых, рэспубліканскіх газет... Ці добра гэта выглядае ад сёння, ці нядобра — справа не ў гэтым.

Справа ў тым, чым усё тады скончылася: ЦК КПСС адмяніў ліміт... А напрыканцы 80-х наклад сягнуў ажно да 23 мільёнаў, з чаго атрымаўся сусветны рэкорд у Кнізе Гінэса і ці не навуковы тэрмін «феномен «Труда».

Адкуль феномен? Ад «Шурыка». То бок светлай памяці Аляксандра Міхайлавіча Субоціна. У 1963-м, калі ён стаў галоўным рэдактарам, наклад «Труда» не перавышаў некалькіх соцень тысяч на ўвесь СССР. У 1980-м, калі сыходзіў, пайшоў на другі дзясятак мільёнаў...

**Уласна «савецкай журналістыкі» ніколі не існавала »**

Нехта мо палічыць гэту з'яву тыпова савецкай. Маўляў, дурны, ачмураны камуністычнай прапагандай, уведзены ў зман народ...

Мяне часам здзіўляюць, часам забаўляюць, а больш за ўсё засмучаюць сучасныя ўяўленні пра савецкую журналістыку, народжаныя на пераломе эпох, як пра цалкам заганную. Ці тую, чый шматгадовы досвед нікому ўжо не патрэбны.

Між тым, уласна «савецкай журналістыкі» ніколі не існавала. Існавала журналістыка савецкіх часоў, у розныя часы розная. І розная нават у адзін і той жа час, у адным і тым жа выданні. То бок тая, што прызначана для «начальства», і тая, што для чытачоў. Адпаведна і журналісты падзяляліся на чэсных, без усялякіх двукоссяў, і нячэсных, на шчырых і няшчырых, на сумленных і крывадушных...

Згаданы поспех «Труда» адбыўся, зразумела, з вялікай колькасці складнікаў. Але галоўным быў звычайны для нармальнай, паўсюднай у свеце журналістыкі, крытэрый — чытацкая цікавасць. А з чаго, з улікам тагачаснай чытацкай ментальнасці, складалася яна? Калі коратка: са штодзённай сенсацыйнасці, з простай, зразумелай усім мовы, і з таго, што газета штодня дзяўбла рознай велічыні начальства. То бок насамрэч дапамагала людзям вырашаць розныя жыццёвыя праблемы, працоўныя канфлікты і гэтак далей. То бок дамагалася ў кожным выпадку справядлівасці.

То бок трымалася штодзённага жыцця...

Я не з'яўляюся адэптам журналістыкі савецкага часу. У мяне няма падстаў лічыць яе ўзорам на ўсе часы. Але мяне ніхто не разупэўніць у тым, што менавіта тагачасная прафесійная і чэсная адносна пачварных з'яваў жыцця журналістыка спакваля расхіствала таталітарны камуністычны будынак. Бо вымушала чытача думаць і крытычным вокам глядзець наўкол.

...Можна колькі заўгодна вінаваціць лукашэнкаўскі рэжым, які выбіў канстытуцыйны і фінансавы падмурак з-пад нованароджанай у 90-х незалежнай журналістыкі.

Можна колькі заўгодна спасылацца на раструшчванне савецкага маналіту і кардынальныя змены ў чытацкіх прыярытэтах...

Усё праўда. Але не ўся.

Праўда і тое, што нованароджаная беларуская журналістыка не заўважыла моманту, калі чытач пакінуў барыкады 90-х. Момант, калі яна, застаўшыся на барыкадах, перастала чуць рэальнае жыццё, рэальныя інтарэсы і праблемы простых, ментальна яшчэ савецкіх, людзей. Тых, хто ў красавіку 91-га дапамог зрушыць камуністычны рэжым, а ў жніўні дамагчыся незалежнасці...

У выніку маем маўклівае чытацкае раўнадушша да лёсу газет.

У выніку маем адсутнасць агульнанацыянальнай, па накладах, незалежнай прэсы.

У выніку маем моцных журналістаў і не маем чытачоў, адное што больш-менш выразныя купкі аднадумцаў.

У выніку маем няспраўджаныя надзеі і шэры попел успамінаў. Самі сабе пішам. Самі сябе чытаем. Самі сабе...

*kamerton_41@mail.ru*

# Валерыя Кустава: Лепш праграміст на кухні, чым паэт на шыі

Гутарка з тэлевядучай, паэткай, выкладчыцай і проста прыгожай дзяўчынай Валерыяй Куставай пра **даверлівасць, заляцанні** студэнтаў, кіно і вечныя прыгоды.




**Валярына Кустава**
Нарадзілася ў 1984-м у Мінску. Першую кнігу паэзіі «Кроў Сусвету» выдала ў 12-гадовым узросце. Аўтарка кніг вершаў «Каб неба сагрэць…» і «Тамсама». Вядучая на тэлеканале «Белсат».

### Прысады, перападрыхтоўка, абдымацца

**«Наша Ніва»: Як справы?**

**Валярына Кустава:** Добра, толькі з лекцый... А 9-й раніцы пачынаюцца, а 9-й вечара сканчаюцца. Ведаеш, нядаўна зразумела, што мне не проста так кажуць, што я працаголік. Думала, жартуюць. Было такое глупства, што я вырашыла пісаць сабе спісы справаў на дзень, каб нічога не забыцца. І я разумела, што мне на ўсё проста не хапае 24 гадзін, нават калі не есці і не спаць. Таму цяпер пішу такі спіс, адзін раз на яго гляджу — і раблю толькі тое, што ўспомню.

**«НН»: Цяпер вечар пятніцы: усе дзяўчаты ў такі час рознымі рамантычнымі рэчамі займаюцца, а ты…**

**ВК:** Ніякіх пацалункаў, абдымкаў, гулянняў па вясенькіх прысадах пятнічным вечарам. Але ў мяне — цудоўныя, амбітныя, прыгожыя студэнты, што даводзяць сваімі яркімі індывідуальнасцямі.

**«НН»: Падабаюцца?**

**ВК:** Вельмі. Асабліва цікавыя моманты бываюць, калі ты першы раз прыходзіш ва аўдыторыю, а там сядзіць дзесяць мужчын ад 30 да 55 гадоў. І ты ім кажаш: «Спадарства, мяне завуць пані Валярына, я раскажу вам, як рабіць кіно». Яны ўсміхаюцца. Але пасля першай пары звычайна ўсё наладжваецца, бо я вельмі шмат працую з імі менавіта практычна. Папярэдне ўзбагаціўшы тэорыяй, пастаянна даводзіцца прыдумляць ім розныя заданні...

**«НН»: Мне цікава, як ты можаш вучыць жыццю мужчыну, якому 50 год?**

**ВК:** Гэта прасцей, чым вучыць юнака. Гэта, як правіла, людзі, якія прыйшлі на перападрыхтоўку. То бок ім сапраўды гэта важна і цікава. І ў іх часу разабрацца ў прафесіі меней, каб у ёй спраўдзіцца. Таму можна лёгка акцэнтаваць увагу на гэтым. Вось моладзь я, наадварот, заўжды заахвочваю рабіць як мага болей памылак, бо ў іх праблема такая, што яны баяцца пачаць. Але чым раней ты пачнеш рабіць памылкі, тым раней скончыш.

**«НН»: А студэнты спрабуюць «клеіцца»?**

**ВК:** Здараецца. Але ў нас з імі ёсць дамова, якую часам даводзіцца тлумачыць двойчы. Пакуль я іх выкладчык, то я толькі іх выкладчык.

### Валярына, кіно, дысертацыя

**«НН»: Я вось сабе запісаў: гісторыя кіно і драматургія сучаснага фільма. Гэта тое, што ты выкладаеш у сваёй мастацкай ВНУ?**

**ВК:** Я выкладаю пяць асноўных прадметаў: гісторыя сусветнага кіно, гісторыя беларускага кіно і TV, тэорыя драмы, асновы драматургіі, драматургія сучаснага фільма, экранныя мастацтвы, і нават некалі выкладала — крыніцазнаўства і тэатр Усходу. Па сваёй першай адукацыі я кінадраматург, сцэнарыст. Магістратуру скончыла як кіназнаўца і аспірантуру як мастацтвазнаўца ў першую чаргу ў галіне тэлебачання і кіно.

**«НН»: Адкуль такая цяга да кіно?**

**ВК:** Я гадавалася ў асяродку мастакоў, музыкаў і літаратараў: многія з іх збіраліся ў бабулі, усе творчыя, носьбіты нацыянальнай ідэі. Мы з братам усмокталі ўсё з маленства. У нас рознае абмяркоўвалася ў хаце, неяк нават Марачкін мне падарыў ручку Біла Клінтана, каб мае вершы былі больш вольнымі (*смяецца*). Мамка пэўны час кіравала Кінацэнтрам па эстэтычным выхаванні дзецей, ладзіла кінафестывалі. І вакол мяне была такая канцэнтрацыя мастацтва, літаратуры і музыкі! Я заўжды малявала, грала на скрыпачцы і фартэпіяна, і мне быў цікавы сінтэз мастацтваў, а ў кіно ўсё яднаецца — вось і паступіла на драматурга. А паэзіяй я і так з маленства займалася...

**«НН»: Ты казала, што на першым занятку прадстаўляешся як Валярына. Увогуле, гэта што? Псеўданім, дзіцячае імя?**

**ВК:** Спачатку я казала студэнтам называць мяне «спадарыня Валерыя». Але яны недзе самі адшукалі і пачалі павальна называць мяне «пані Валярына». У пашпарце ў мяне напісана «Валерыя». Родныя і сябры мяне заўсёды называлі Валярушка ці Валерачка. Калі мне было 16 гадоў, моваведзнаўца Генадзь Тумаш прыдумаў такую адаптацыю майго імя — Валярына. Мне спачатку не вельмі спадабалася, шчыра кажучы. А потым яно зайшло. І цяпер шмат сяброў кажуць «Валярынчка» — і мне ад гэтага цёпла. Цікава, што імя Валярына можна выкарыстоўваць без прозвішча. Бо цяпер вядома (ну, як вядома — шырока вядома ў вузкіх колах), што ёсць такая Валярына.

### Дзяўчынка-прыгода, манастыр, акцэнты

**«НН»: Што за сітуацыя ў цябе з маладым дыпламатам Юрасём Станкевічам, які цябе падмануў на грошы?**

**«НН»:** Некалькі гадоў таму ў мяне ў Швецыі скралі літаральна ўсё, што ў мяне было. Асабліва мне было шкада вязанай шапачкі ў выглядзе ката, якая была ў торбе з фоцікам, айфонам і дакументамі. І тады Юрась Станкевіч прапанаваў мне дапамогу. Хоць бачыла яго толькі двойчы ў жыцці, лічыла сваім прыяцелем. Таму, калі Юрась мяне роспачна прасіў пра дапамогу, казаў, што яму няма дзе начаваць, я патраціла на яго апошнія сродкі. Ён папрасіў мяне пазычыць у сяброў, бо яму нібы не дазваляў гонар. Я пазычыла. І калі прыйшоў час вярнуць — ён знік. А пасля атрымалася сітуацыя, калі ўжо проста мне не было дзе начаваць. І ён другі раз знік на некалькі месяцаў, хаця чытаў мае паведамленні і абяцаў штораз «заўтра» вырашыць сітуацыю. Спачатку я перажывала, думала, каб з ім чаго не здарылася. А пасля выявілася, што ён мне хлусіў, і так рабіў яшчэ з дзясяткамі беларусаў. І самае прыкрае, што я папрасіла свайго сябра, каб Юрась у яго пераначаваў у Лондане (дзе той знаходзіўся), а Юрась яго абрабаваў. Вельмі сумна ад гэтага ўсяго насамрэч, я стамілася ад гэтай гісторыі. [Сям'я Юрася вярнула Валярыне грошы пасля таго, як гутарка ўжо была гатовая — «НН»].

### Муза і муз

**«НН»: Давай пагаворым пра тваё асабістае жыццё. Ты цяпер з кімсьці ў стасунках?**

**ВК:** Можаш напісаць, што я цяпер вольная. І ў кагосьці прыўкраснага ёсць шанец (*смяецца*).

**«НН»: А якіх бы стасункаў табе хацелася?**

**ВК:** Без драмы. Спакойных, нармальных, зямных, паважлівых. Каб добры чалавек быў... А прыгоды нас знойдуць самі. А то гэтая жарсць — ну яе...

**«НН»: Мужчын-паэтаў на вершы часта натхняюць жанчыны. А з паэткамі як?**

**ВК:** Я кажу: у паэтаў ёсць Муза, а ў паэтак — Муз. Натуральна, што натхняюць нейкія стасункі, сустрэчы, падарожжы. Вельмі клёва натхняе боль, пакута і адзінота. Ясна, што гэтыя творы не бязадрасныя. Але дакладна, лепш праграміст на кухні, чым паэт на шыі.

### Усмешкі і фітнэс-шмітнэс

**«НН»: Вернемся да творчасці. Для мяне зусім незразумела, як можна пісаць вершы ў 6 гадоў. Большасць людзей у такім узросце толькі пісаць вучыцца!**

**ВК:** У мяне маленства не было. Я ўсміхацца пачала ў 8 гадоў толькі. І я камунікавала з людзьмі, якім было за 40 заўжды. Яшчэ ў мяне была клінічная смерць. Мне нецікава быў садок. Мне было цікава неба, сны, пазасвет. І адпаведна, мне ў снах прыходзілі ўсе гэтыя радкі, вобразы. І цяпер хочацца паспець навыдурняцца, каб кампенсаваць адсутнасць маленства, падлеткавага ўзросту. Я толькі недзе ў 11 класе пачала стасункі, размовы з аднагодкамі. І вельмі цешуся, што сацыяльная адаптацыя прайшла паспяхова.

**«НН»: Адчувала сябе вундэркіндам?**

**ВК:** Мяне так называлі, але я думала, што гэта ўсё натуральна, што так ва ўсіх. Я не думала, што ў мяне нейкая адрозная сітуацыя ад іншых — не было з чым параўнаць. Мне здавалася, што духі да ўсіх прыходзяць, вершы да ўсіх прыходзяць. Мае бацькі мяне правільна выхоўвалі — не акцэнтавалі ўвагі на гэтых здольнасцях. І таму я сябе адчувала нармальна.

**«НН»: Што цябе натхніла пачаць праект «Фітнэс-Шмітнэс»?**

**ВК:** Я заўсёды займалася спортам. У школе я нават гуляла ў рэспубліканскай зборнай па баскетболе. І ў 16, і ў 19 я была вельмі зграбнай. Насіла такія жоўтыя кароценькія шорцікі, якія ледзь азадак прыкрывалі, — нават фатаграфія ёсць. А потым я пачала вучыцца: шмат працы за кампом, стрэс. Аддала перавагу мозгу перад целам, а заўжды варта ўраўнаважваць. Некалькі разоў спрабавала займацца, адзін раз скінула 25 кг, але пасля зноў набрала. І я вырашыла, што мне трэба нейкі матыватар у выглядзе трэнера. Я была перасякалася з Пашам Аракелянам на розных канцэртах і выступах, і аднойчы папрасіла яго парэкамендаваць мне трэнера, бо бачыла, што ён у форме. А ён мне прапанаваў быць маім трэнерам па-сяброўску. Мы пачалі хадзіць у залу, з'явіліся нейкія вынікі. Да таго ж, у нас гэта атрымлівалася неяк прыкольна. І вось так нарадзілася ідэя зрабіць такую вясёлую і карысную перадачу.

**«НН»: Колькі ты ўвогуле ўжо скінула?**

**ВК:** Спачатку было 124, пакуль скінула 30. Да канца лістапада трэба яшчэ 20 скінуць. Не ведаю, ці паспею да канца восені. Але паціху — я гэта даб'ю па-любому. Пасля заканчэння шоу на «Белсаце» будзе фінальны фільм пра тое, як усё праходзіла — недзе 7 снежня плануецца эфір. Цяжкія месяцы мне цяпер чакаюць. Але мы яшчэ робім усё так, каб, змяняючыся, не страціць здароўе — каб скура была нацягнутай, грудзі не страцілі памеру, цягліцы цвярдзелі, а шчочкі сыходзілі ў меру. Каб стаць не толькі яшчэ прыгажэйшай, але і здаравейшай па ўсіх параметрах — і захаваць гэта назаўжды. Такая звышзадача.

Гутарыў Зміцер Міцкевіч

# А нас хто-небудзь спытаў?

Дагавор пра ЕАЭС патрабуе ўсенароднага абмеркавання! Піша **Ягор Лебядок**.

29 мая Аляксандр Лукашэнка падпісаў дамову аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС). Пасля з'яўлення гэтай навіны ў інтэрнэце напісалі мноства каментароў, сярод якіх папулярным быў наступны: «А нас хто-небудзь спытаў, ці трэба нам ўступаць у гэты саюз?» Я ж вырашыў не чакаць, пакуль мяне нехта запытае аб маім меркаванні, а сам спытаць з тых, хто дагавор аб ЕАЭС павінны ратыфікаваць: дэпутата палаты прадстаўнікоў ад сваёй акругі Мурашку І.А. і члена савета рэспублікі Карашкова Я.Ф. Пытанне было наступнага зместу: «Ці лічыце Вы, што палажэнне ст. 13 дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе адпавядае інтарэсам Рэспублікі Беларусь і яе нацыянальнаму заканадаўству, якім чынам Вы збіраецеся ўлічваць меркаванне грамадзян Рэспублікі Беларусь, сваіх выбаршчыкаў (дэпутатаў мясцовых саветаў) і юрыдычных асоб пры разглядзе ў нацыянальным сходзе пытання аб ратыфікацыі дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе?»
Новую актуальнасць гэтая праблема набыла ў святле таго, што законапраект ужо трапіў у нацыянальны сход.
Неабходна разумець, у якога кшталту саюз мы ўступаем не толькі дэ-юрэ, але і дэ-факта.
У прэамбуле дагавору аб стварэнні ЕАЭС адзначана, што дзяржавамі рухае імкненне гарантаваць добрасумленную канкурэнцыю, да адной з агульных задач адносіцца ўмацаванне канкурэнтаздольнасці нацыянальных эканомік. І што мы бачым насамрэч: увядзенне мытаў і розных сертыфікатаў, што абмяжоўваюць доступ імпартных тавараў на тэрыторыю краін ЕАЭС і да т.п. Такім чынам, «канкурэнтаздольнасць» шэрагу нашых тавараў будзе дасягацца не грунтуючыся на росце якасці і зніжэнні кошту (што было б добра), а праз абмежаванне імпарту. Хутчэй за ўсе, ЕАЭС чакае не развіццё канкурэнцыі, а манапалізацыя. Але ж эканоміка ў ЕАЭС не галоўнае.
Вядома, што ЕАЭС — гэта палітычны праект прэзідэнта Расіі Пуціна. Аб тым, што ЕАЭС у будучым чакае палітычная і вайсковая інтэграцыя, казаў і Лукашэнка. Што чакае гэты саюз ва ўнутрыпалітычным плане?
Безумоўна, асноўнай дзяржавай саюза ёсць Расія, адпаведна і палітыка саюза будзе вызначацца Расійскай Федэрацыяй. Існуе зашмат філасофскіх разваг аб «загадкавай рускай душы», але найбольш дакладнае апісанне ў сацыяльным зрэзе прапанаваў Андрэй Амальрык у артыкуле «Ці праіснуе Савецкі Саюз да 1984 года» (выдадзены ў 1969 годзе). Вось яго словы: «Рускаму народу … амаль зусім незразумелая ідэя самакіравання, роўнага для ўсіх закона і асабістай свабоды — і звязанай з гэтым адказнасці. Нават у ідэі прагматычнай свабоды сярэдні рускі чалавек убачыць не магчымасць для сябе добра ўладкавацца ў жыцці, а небяспеку, што нейкі спрытны чалавек добра ўладкуецца за яго кошт. «Справядлівасць» на практыцы абарочваецца жаданнем, «каб нікому не было лепей, чым мне». Гэтая ідэя абарочваецца нянавісцю да ўсяго, што выходзіць з шэрагу прэч, … да ўсялякай ініцыятывы, да ўсякага больш высокага і дынамічнага ладу жыцця, чым жывем мы».
Калі паглядзець на сучасную Расію, наўрад ці можна сказаць, што з 1969 года нешта карэнным чынам змянілася. Улічваючы працяглую нязменнасць улады і кіраўнічых кадраў у Беларусі, Казахстане і Расіі, відавочна, што на ключавых пасадах у ЕАЭС будуць усё тыя ж асобы, якія, зразумела, не жадаюць пакідаць свае «наседжаныя» месцы для маладых і перспектыўных. Калі дадаць да вышэй сказанага высокую верагоднасць манапалізацыі эканомікі і ўзгадаць словы Леніна: «Свабоднай канкурэнцыі адпавядае дэмакратыя, манаполіі адпавядае палітычная рэакцыя», — то напрошваецца высНова, што з вялікай верагоднасцю ЕАЭС пераўтворыцца ў ізаляванае ад знешняга свету таталітарнае ўтварэнне з пэўнай ступенню агрэсіі да высокаразвітых краін, кіраваць саюзам будзе «састарэлы гурт» а-ля Брэжнеў і Ко, вынікам кіраўніцтва якога стане кансервацыя сацыяльных працэсаў і татальны кантроль за грамадзянамі, адсутнасць інавацый і прагрэсу ў цэлым.
Варта дадаць, што, як і кожны інтэграцыйны крок паміж Беларуссю і Расіяй да гэтага часу, ратыфікацыя дагавору стане прадметам гандлю: таварам будзе часовая падтрымка «нагавіц» і цяперашняй улады (напярэдадні прэзідэнцкія выбары), а коштам — будучыня Беларусі.
Што ж мне адказалі парламентарыі?
Звяртае на сябе ўвагу той факт, што аніводны не адказаў на пытанне, якім чынам ён будзе ўлічваць меркаванне грамадзян пры разглядзе дагавора ў Парламенце! Дакладней, Мурашка І.А. гэтае пытанне праігнараваў, а Карашкоў Я.Ф. адказаў за ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь.
Такім чынам, шаноўныя беларусы, сапраўды ніхто не збіраецца пацікавіцца вашым меркаваннем наконт ЕАЭС! Магчыма, што толькі ў Лагойскай выбарчай акрузе парламентарыям не цікава, што думаюць аб ЕАЭС іхнія выбаршчыкі. Але ж гэта малаверагодна, паколькі ўжо на другі дзень пасля падпісання дагавора старшыня пастаяннай камісіі па міжнародных справах ПП РБ Самасейка М.Л. паведаміў, што парламент плануе ратыфікаваць дагавор у самыя кароткія тэрміны. Чытай: аніякіх грамадскіх абмеркаванняў не прадугледжваецца.
Таму варта не задавацца пытаннем — «а нас хто-небудзь спытаў?» — а карыстацца законным правам самім пытаць службовых асоб! Зрабіць гэта не складана: ёсць электронная пошта, таму і выходзіць з дому не спатрэбіцца. Многія з нас марнуюць дастаткова часу на прагляд навін і напісанне каментароў, якія на наступны дзень ужо абсалютна не важныя. Дык удзяліце толькі 5 хвілін свайго часу годнай справе і дашліце ліст з вашым поглядам на ўступленне Беларусі ў ЕАЭС ці прапановамі сваім парламентарыям (спіс дэпутатаў па акругах і іхнія адрасы электроннай пошты ёсць на сайце парламента).
Шматлікія грамадзяне нашай краіны на такую прапанову пытаюць: «І што гэта дасць?». Па-першае, калі негатыўны прагноз адносна будучыні ЕАЭС спраўдзіцца, то вы зможаце адказаць сваім дзецям на папрок у ваш адрас — як вы такое дапусцілі? — тым, што вы зрабілі хоць мінімальна ад вас залежнае: як звычайныя не радыкальна настроеныя грамадзяне выказалі сваё меркаванне прадстаўнікам улады. Па-другое, калі грамадзяне напішуць не адзін ліст, а тысячы, то нейкія публічныя дыскусіі на гэтую тэму абавязкова пачнуцца. З кітайска-беларускім індустрыяльным паркам гэта часткова атрымалася, дык там справа тычылася толькі малой часткі тэрыторыі, а пытанне аб ЕАЭС — гэта пытанне аб будучыні ўсёй Беларусі.
Безумоўна, па такім пытанні трэба праводзіць грамадскае абмеркаванне, і кожны свядомы грамадзянін павінен дамагацца гэтага. Нават калі большасць беларусаў будзе за ўступленне ў ЕАЭС, то падчас абмеркавання выявяцца негатыўныя сацыяльна-эканамічныя моманты, якія можна будзе загадзя вырашыць.
На жаль, улады важныя пытанні выносяць на абмеркаванне толькі пад моцным грамадскім ціскам, а па сваёй ініцыятыве — толькі пытанні другаснага значэння. Не так даўно па пажаданні «вярхоў» пачалося агульнаграмадскае абмеркаванне законапраекта «Аб барацьбе з карупцыяй». На мой погляд, гэтае пытанне другараднае, не сама барацьба з карупцыяй, вядома, а менавіта законапраект. Дзеля чаго ён вынесены на абмеркаванне, зразумець нескладана.
З 1994 года Лукашэнка абяцае перамагчы карупцыю, у кожнай перадвыбарчай праграме ў тым ці іншым выглядзе такі пункт быў. Які вынік 20-гадовай барацьбы, усе добра ведаюць… Ва Украіне адбыўся Майдан (адной з мэт якога была барацьба з карумпаванай уладай), прайшло 20 гадоў амаль безвыніковага змагання з карупцыяй у Беларусі і напярэдадні чарговыя выбары — што ж адказаць беларусам перад выбарамі? Можна было б сказаць, што карупцыя ёсць вынікам таго, што за ўсімі службоўцамі ён усачыць не можа, але ж амаль кожная бабка на лаўцы ведае — у нас вертыкаль улады, адпаведна, заўсёды вінаватыя «верх» улады! Таму, з аднаго боку, трэба паказаць, што гэта агульная і складаная праблема. А з другога боку, зразумела, што карупцыя будзе і надалей, а вінаватым быць не хочацца (прынамсі, аднаму) і тады паўстае ідэя падзелу адказнасці з народам. Маўляў, грамадзяне, мы разам з вамі стварылі закон аб барацьбе з карупцыяй, таму ўсе наступныя карупцыянеры — гэта не мая, а наша супольная недапрацоўка. Такім чынам, у гэтым пытанні меркаваннем грамадзян улады «цікавяцца», але вынік абмеркавання неістотны, таму што ў нашай краіне праблема барацьбы з карупцыяй не ў якасці законаў, а ў іх фактычным ужыванні.
Напрыканцы хацелася б пажадаць беларусам часцей нагадваць уладам — прадстаўнічай і выканаўчай — армейскую прымаўку: калі камандзір плюне — мы павыціраемся, але калі мы плюнем — ён захлынецца!

In memoriam

## Рыгор Кійко

Яго не стала 2 кастрычніка.

Рыгор Іванавіч сканаў у мінскай 10-й клінічнай бальніцы. Прычынай смерці стала цяжкое анкалагічнае захворванне. Год з лішнім назад яго прааперавалі, але хвароба вярнулася.

Развітанне з мастаком прайшло 6 кастрычніка ў памяшканні крэматорыя на Паўночных могілках.

Рыгор Кійко нарадзіўся 27 чэрвеня 1951 года ў вёсцы Цалуйкава Луганскай вобласці ва Украіне. Пазней сям'я пераехала ў Бабруйск. Кійко скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, быў мастаком-керамістам, уваходзіў у мастацкую суполку «Пагоня». Быў у Народным Фронце.

Рыгор Кійко стаў адным з першых беларускіх палітвязняў, калі ў 1997 годзе падчас Дня Волі горача адбіваў бел-чырвона-белы сцяг у міліцыі.

Яго пратрымалі тры месяцы на Валадарцы, а пасля два гады на «хіміі».

**УШ**



Фотажабы

## «Тое, што ёсць паміж намі»

Ёсць нешта асаблівае, цёплае, блізкае, калі ты адчуваеш родную мову. Так, так, менавіта — адчуваеш. Ты чуеш яе, калі табе тэлефануе твой сябар з Менска. Ты бачыш яе, калі раніцай перад працай чытаеш навіны дня на «Нашай Ніве» або на заблакаванай Хартыі. Родная мова малюе дзіўныя карціны ў тваім уяўленні, калі ты чытаеш кнігу на сваёй мове. А ўжо як прыемна бянтэжыць прыгожую і мілую дзяўчыну, якая табе падабаецца, цёплымі беларускімі словамі...

Я не адзін такі. Ёсць людзі, якія адчуваюць тое, што і я. Час такі ў нас, на жаль. Але чаму мы гэта адчуваем? Бо родная мова ўжо на працягу колькіх гадоў знаходзіцца ў ланцугах ў велізарным склепе над нацыянальным Горадам Сонца. Чаму родная мова цяпер усё часцей і часцей на слыху і ў пікселях?

Так усё проста! Пакуль жывая мова — жывы народ, жывы чалавек, яго частка сумлення, самасвядомасць, вера і надзея на будучыню. А пазбавіць усяго гэтага чалавека немагчыма. Таму, нягледзячы на ўсе цяжкасці, родная мова будзе побач у любы халодны дзень, у любую сумную гадзіну і будзе служыць напамінам пра тое, што гонар, вера і надзея — паранейшаму жывыя ў нашых сэрцах.

Дык што ж тады гэта за пачуццё? Цёплае, блізкае і роднае, калі адчуваеш родную мову? Не разумеем да канца, напэўна, і мы самі. Дзядзька Лявон, цябе я слухаю і атрымліваю асалоду кожны дзень. І твой голас ніколі не стоміцца гучаць у маёй галаве:

Тое, што ёсць паміж намі,
Нельга памацаць рукамі.
Тое, што ёсць паміж намі,
Не прадаецца ў краме.
Тое, што ёсць паміж намі,
Не разумеем мы самі.
Тое, што ёсць паміж намі,
Тое, што ёсць паміж намі.

Гэтым маленькім запісам хачу выказаць падзяку «Нашай Ніве» за тое, што яна кожны дзень побач са мной; спадару Лявону Вольскаму за тое, што яго музыка кожны дзень побач са мной, і ўсім тым людзям, якія берагуць і любяць сваю родную мову. Вялікі дзякуй Вам!

**Антон К., Мазыр**

# Бацькі пра навучанне: «Школе трэба адпавядаць узроўню сучасных дзетак-вундэркіндаў»

**Ёсць у рэвалюцыі пачатак, няма ў рэвалюцыі канца — гэтую тэзу можна прымяніць да рамонту, дасканаласці і да рэформ сістэмы адукацыі ў нашай краіне.**

Няглездзячы на нярадасныя вынікі цэнтралізаванага тэставання, міністр адукацыі не падзяляе песімізму выкладчыкаў ВНУ і «У Беларусі пакуль няма падстаў гаварыць пра зніжэнне якасці адукацыі», — заявіў Сяргей Маскевіч на канферэнцыі педагагічных работнікаў Магілёўскай вобласці.

Разам з тым, вынікі ЦТ, напрыклад, у ГДУ ім.Ф.Скарыны сведчаць: пэўна, «штосьці не так». Амаль палова абітурыентаў, якія здавалі фізіку, не набрала і 15 балаў. Толькі шасцёра абітурыентаў атрымалі на ЦТ 91—100 балаў. Падобныя вынікі — і па матэматыцы: 45,7% абітурыентаў набралі ад 0 да 14 балаў, і толькі два чалавекі набралі 91—100 балаў.

Такія вынікі некаторыя выкладчыкі ВНУ звязваюць з тым, што не працуе, маўляў, сярэдняя школа, адкуль ва ўніверсітэты прыходзяць такія невукі. Настаўнікі, у сваю чаргу, наракаюць на нізкія заробкі і высокія, часам недарэчныя, патрабаванні, звязаныя з папяровай працай, дзеці — на тое, што шмат задаюць, нясмачна кормяць і наогул. Бацькі — на непамерныя зборы грошай на «патрэбы школы», і не толькі.

### «Нацыянальная сістэма адукацыі развіваецца дынамічна»

«Штосьці не так» з сістэмай, дакладна. Заўважна гэта не толькі знізу, але і зверху: у верасні была створана рабочая група ўрада «для ажыццяўлення комплекснага аналізу сістэмы адукацыі». Узначаліў структуру віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік. У склад рабочай групы ўвайшлі навукоўцы, практыкі, кіраўнікі ўстаноў адукацыі, мясцовых органаў кіравання.

Пры стварэнні рабочай групы віцэ-прэм'ер аптымістычна заявіў, што «нацыянальная сістэма адукацыі развіваецца дынамічна, забяспечваецца даступнасць і якасць адукацыі, расце яе аўтарытэт сярод грамадзян краіны».



Леанід Судаленка з вялікай сям'ёй.

Чыноўнік дадаў, што трэба з удзелам грамадскасці, педагагічных калектываў і бацькоў правесці комплекснае даследаванне адукацыйнай сістэмы, каб выявіць праблемныя пытанні.

Адказваючы на заклік Анатоля Тозіка, мы апыталі грамадскасць — а менавіта бацькоў школьнікаў, каб ад ускосных удзельнікаў навучальнага працэсу даведацца пра праблемы адукацыйнай сістэмы.

### Справа ва ўменні вучыцца

Дачка менеджара Юнэлі Сальнікавай вучыцца ў чацвёртым класе сярэдняй школы. Маруся не наведвала дзіцячы садок, таму бацькі турбаваліся адносна сацыялізацыі ў школе: ці атрымаецца наладзіць кантакт з аднакласнікамі, ці будзе слухацца настаўніцу? Але адаптацыя да школы прайшла ўдала дзякуючы таму, што клас на той час быў невялікі —каля 15 чалавек і настаўніца мела крэатыўны, сучасны падыход. Маці лічыць, што пабытавыя пытанні школа задавальняе, ды і патрабаванні ў бацькоў сціплыя. Плюсам жанчына лічыць тое, што школа малая — каля 400 вучняў, «усе адзін аднаго ведаюць і гатовыя вырашаць пытанні без канфліктаў».

Прынцыповая рэч для бацькоў чацвёртакласніцы — гэта неабходнасць паважлівага стаўлення настаўнікаў да дзіця. «Маруся мае няўрымслівы характар і абвостранае пачуццё абароны сваіх правоў, але да гэтага часу ўсе спагнанні атрымлівае толькі ў дзённік. То бок настаўнікі трымаюцца прафесійна і не дазваляюць сабе пазашкольных метадаў выхавання», —падкрэслівае Юнэля Сальнікава.

Цяпер, на пачатку новага навучальнага года, асноўныя турботы бацькоў — падтрымка матывацыі дачкі да вучобы. «Калі дзеці спажываюць інфармацыю з сотні розных крыніц, школа з'яўляецца далёка не прыярытэтнай з гэтых крыніц. Сучасныя дзеткі, даволі прасунутыя і разумныя, вымагаюць новых падыходаў і індывідуальных заданняў. Да прыкладу, з хатнімі заданнямі Маруся спраўляецца за паўгадзіны (разам з напісаннем у чарнавік і праверкай з боку дарослых), такім чынам выдаткоўваючы зусім невялікую частку сваёй энергіі і здольнасцяў на школу. Школе, як зрэшты і ўсёй адукацыйнай сістэме, варта развіваць і ўскладняць свае праграмы, каб адпавядаць узроўню сённяшніх вундэркіндаў, якія адназначна больш разумныя і здольныя за сваіх бацькоў», — упэўненая суразмоўца. Па яе меркаванні, спрашчаць ці ўскладняць беларускія праграмы не трэба — варта развіваць іх, адаптаваць пад выклікі і патрэбы часу і змяняць сам падыход, бо справа ж не ў колькасці ведаў, а ва ўменні вучыцца і арыентавацца ў сістэме ведаў.



Маруся Сальнікава пайшла ў чацвёрты клас.

### Выкарыстоўваюць настаўнікаў

У юрыста Леаніда Судаленкі — чацвёра дзяцей, усе хлопцы. Два старэйшыя — дарослыя. Самы меншы — дашкольнік. Адзін сын наведвае сярэднюю школу, дзявяты клас. Галоўнай праблемай сучаснай школы Леанід Судаленка лічыць бясконцыя рэформы. А яшчэ адной праблемай называе выкарыстанне школьных настаўнікаў у палітычных мэтах. «Вясной падчас мясцовай выбарчай кампаніі я прыйшоў у кабінет дырэктара школы па яе запрашэнні, і ўбачыў стосы друкаванай прадукцыі на тэму выбараў, якія рупліва па стопках раскладвалі настаўнікі. Ды і ў час выбараў менавіта настаўнікі масава працуюць ва ўчастковых камісіях», — зазначыў юрыст.

### Змагаюцца за лепшы кабінет

Малодшы сын барда Андруся Мельнікава ходзіць у восьмы клас. Прэтэнзіі бацькі — на вымаганне грошай з бацькоў на ўсялякія змаганні паміж настаўнікамі: у каго кабінет лепшы. «Калі б неабходнасць — адна справа, але тут рэч менавіта ва ўнутраным змаганні паміж настаўнікамі, каб атрымаць прэмію за лепшы кабінет і гэтак далей», — лічыць музыка.

Ён сам працаваў некалі ў той жа школе, дзе зараз вучыцца сын, і заўважае, што ўзровень ведаў вучняў зніжаецца. «Бо апошнія два-тры гады там асноўнае пытанне не вучоба, а пастаянны ўдзел дзяцей у нейкіх спаборніцтвах, віктарынах, конкурсах — прадстаўляць школы на розных мерапрыемствах. І гэта ідзе не ад школы, а ад аддзелаў адукацыі. Могуць заганяць дзяцей на нейкія спартыўныя спаборніцтвы ў якасці гледачоў, і гэта — не на карысць навучальнага працэсу, канечне», —разважае Андрусь Мельнікаў.

### Хатняя адукацыя

Жыхар Гомеля Мар'ян Голуб, бацька чатырох дзяцей, наогул вырашыў даць сваім дзецям адукацыю дома. Хатняе навучанне (афіцыйна называецца «навучанне па індывідуальным плане») атрымліваюць двое яго старэйшых сыноў васьмігадовы Антон і сямігадовы Максім. Такая форма навучання прапісана ў заканадаўстве. Дзеці прыходзяць у школу ў канцы чвэрці на кантрольныя работы па кожным прадмеце. Хатняй адукацыяй звычайна займаюцца бацькі, але ў выпадку з Максімам і Антонам з дзецьмі працуе педагог, які прыходзіць раз на тыдзень і тры гадзіны займаецца з двума дзецьмі. Хатняе заданне даецца на тыдзень. «Апроч таго, у нас няма праблем з чытаннем, часта наведваем бібліятэку. Хлопчыкі наведваюць спартыўныя секцыі, гурткі па маляванні і музыцы. Нас вельмі задавальняе, што пры такой форме адукацыі ў дзяцей шмат вольнага часу, таму яны могуць наведваць шмат гурткоў. Варта дадаць, што маладому бацьку не трэба хадзіць на працу з 9 да 17 штодзень, і таму ён можа больш займацца са сваімі дзецьмі.

Мар'ян пералічвае мінусы сучаснай школы: адсутнасць індывідуальнага падыходу, дэструкцыя творчых здольнасцяў, трансляцыя незразумелых каштоўнасцяў, ацэначная сістэма як гібельная і марная трата часу.

«На жаль, мы ў найбліжэйшых школах не знайшлі такога, што адпавядала б нашым патрабаванням», — тлумачыць бацька.

Па яго словах, калі разабраць штохвілінна, на што траціцца дзіцём час у школе, то акажацца, што большасць часу сыходзіць у нікуды.

Разам з тым, пераважная большасць жыхароў Гомеля, якія маюць дзяцей-школьнікаў, ходзіць і ездзіць на працу, і таму мала хто можа дазволіць сабе раскошу перавесці дзіця на хатняе навучанне ці наняць яму нянькУ. Часам праз загружанасць бацькоў на працы атрымліваецца так, што дзеці самотна сядзяць дома пасля школы да позняй ночы. У ролі нянек і выхавацелек выступаюць ноўтбукі, смартфоны і іншыя падарункі (ці траянскія коні?) тэхнічнага прагрэсу.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

**Анекдот не ў тэму**

«Як ты думаеш, што было б самым складаным патлумачыць чалавеку, які трапіў бы да нас на машыне часу з 1950 года?» —«Тое, што ў мяне ў кішэні ляжыць маленькі апарат, які мае доступ да любой інфармацыі ў свеце, а я праз той апарат гляджу здымкі коцікаў ці спрачаюся з незнаёмымі людзьмі».

# 4-ы ковенскі кангрэс

**4-ы Кангрэс даследчыкаў Беларусі сабраў 480 навукоўцаў і шкаляроў.**

Па-літоўску гэты горад называецца Каўнас. У беларусаў раней бытавала такая яго назва — Коўна.

Чаму ў Каўнасе адбываюцца гэтыя кангрэсы? Бо Кангрэсы даследчыкаў Беларусі ладзіць суполка навукоўцаў, палітолагаў пераважна, але не толькі, якая называецца **«Інстытут «Палітычная сфера»**. А яна мае цесныя сувязі з ковенскім Універсітэтам Вітаўта Вялікага.

Гэта не проста ўніверсітэт як іншыя. Vytautas Magnus University, па-літоўску Vytauto Didžiojo Universitetas, адрозніваецца тым, што першым перайшоў на амерыканскую сістэму навучання. Студэнты ў ім самі выбіраюць, якія прадметы вучыць, а якія — не. Вялізную ролю ў станаўленні ўніверсітэта адыгралі літоўскія эмігранты.

А беларусам універсітэт Каўнаса дапамагае таму, што ў ім працуе некалькі выдатных навукоўцаў, якія надзвычай спагадліва ставяцца да Беларусі. Гэта літовец **Русціс Камунтавічус** і паляк **Томаш Блашчак**. Яны і дапамагаюць «маладым беларусам» ва ўсіх іх пачынаннях.

Камунтавічус, дырэктар Інстытута Вялікага Княства Літоўскага, мае погляд не традыцыйны для літоўскіх гісторыкаў. Мала таго, што ён прызнае ролю беларусаў у ВКЛ, дык яшчэ і кажа, што часам гэтая роля была галоўная.

**З вядомых беларусаў з Коўнам быў звязаны лёс Вацлава Ластоўскага** — ён як лідар Беларускай Народнай Рэспублікі нейкі час арыентаваўся на саюз з ужо незалежнай Літвой, пасля працаваў у яе ўрадзе міністрам па беларускіх справах.

А таксама **Клаўдзій Дуж-Душэўскі**. Архітэктар, стваральнік бел-чырвона-белага сцяга, ён бачыў Беларусь адналькава незалежнай ад Польшчы і Расіі. Таму ў міжваенны час асеў не ў БССР і не на крэсах, а ў Літве.

Спраектаваныя ім канструктывісцкія (дух 1920-х) будынкі дагэтуль стаяць у Коўне на вуліцы Данелайціса. А ён пасля нямецкай турмы (за ратаванне яўрэяў) і савецкага канцлагера (за «беларускі нацыяналізм») памёр у Коўне і там жа на могілках Петрашуны пахаваны.

Удзельнікі Кангрэсу наведалі яго магілы. Уніяцкія святары **Сяргей Стасевіч** і **Андрэй Крот** прачыталі там літію.



У 2013 годзе ён прыязджаў у Мінск і выступіў з лекцыяй.

Кангрэс быў без пафасу. Не было там пачэсных гасцей-зорак. Не было помпы. Не было пышных банкетаў, толькі крыху пячэння і танных цукерак, каб адзначыць прэміі за найлепшыя працы. Не было трансферу ўдзельнікаў ад гатэляў. Дый у самых гатэлях большасць людзей сялілі па двое ў пакой, а не па адным, як бывае на ўсякіх статусных імпрэзах. Самых пачэсных гасцей, дарэчы, пасялілі ў «Метраполь» — гатэль каля цэнтральнай у Коўне Лайсвес-алеі, (алеі Свабоды). Там усё захавана, як было калісьці ў 1920-я. Захавана настолькі, што ў некаторых пакоях было зусім холадна, бо няма сучаснай сістэмы кандыцыянавання.

Але атмасфера навукі была. І беларускасць была непадробная. А замест калектыўных банкетаў удзельнікаў дэлегаты вечарамі каштавалі літоўскае піва ў шматлікіх барах пуставатага Коўна (за апошнія 25 гадоў насельніцтва горада паменшала з 420 да 307 тысяч чалавек).

15 секцый працавала паралельна. Каласальны механізм!

Найбольш удзельнікаў было на гісторыі. Гістарычныя секцыі называліся так: «Вялікае Княства Літоўскае: крыніцы-соцыум-нарацыя», «Беларусь у складзе Расійскай Імперыі» з падсекцыяй «Яўрэі ў кантэксце беларускай гісторыі», «Беларусь у XX ст.: насілле і мадэрнізацыя», «Беларускае замежжа і памежжа ў гісторыі і сучаснасці».

Было некалькі паліталагічных секцый, эканамічная, філалагічныя, літаратурная, секцыя пра архітэктурную спадчыну. Ну і модная цяпер «гендарная». Прычым гэтым разам не толькі пра фемінізм, але і з падсекцыяй «Мужчынскія дасведаванняў».

Праца доўжылася тры дні, з 3 да 5 кастрычніка.

А папярэднічалі ёй традыцыйныя ўступныя лекцыі.

Першым спікерам быў прэзідэнт Украінскага ПЭН-цэнтра **Мікола Рабчук**. І гэта было сімвалічна ў год, калі Еўропа стала іншай пасля агрэсіі Расіі ва Украіне.

Ідэі Рабчука неадназначныя. Ён даўно выказваўся за аддзяленне ўкраінскамоўнай часткі Украіны ад яе ўсходу.

А 50-гадовы беларускі філосаф





і паэт **Ігар Бабкоў**, беларускі інтэлектуальны гуру 90-х, назваў свой даклад «Пасля лакальнасці: беларуская інтэлектуальная гісторыя найноўшага часу (1989—2014 гг.)»

Эпоха посткамунізму скончылася ў 2014-м, сказаў Бабкоў, бо ніхто Украіне на дапамогу не прыйшоў. А было б так прыгожа, калі б уся былая Рэч Паспалітая — Польшча, Беларусь і Літва — сказалі: «Мы разам з вамі».

«Мы выкінулі ў смецтік ідэю пра моўную і культурную маналітнасць нацыі як рэальнасць і арыенцір», — прызнаў Бабкоў.

У Беларусі паралельна развіваліся два праекты: нацыянальна-дэмакратычны (у аснове яго былі ідэі мовы, нацыі, збліжэння з Еўропай) і крэольскі (Багушэвічава ідэя сацыяльнай роўнасці). Між двума праектамі ўзнікла беларуская барыкада, казаў Бабкоў.

«У Беларусі ўсё зусім не выдатна», — прызнаў Бабкоў. Але пакуль аналітыкі спрачаліся, які з праектаў мае больш шанцаў, вакол беларускай барыкады паўстала палітычная нацыя, і гэта і ёсць наш вялікі сакрэт, паэтычна заключыў Бабкоў.

Палітолаг Аляксандр Папко скрытыкаваў меркаванне Бабкова, што няма даганяючых нацый. Такое магло б прагучаць на з'ездзе «Адзінай Расіі», сказаў ён. Насамрэч гэта вядзе да маральнага рэлятывізму. Перадавы досвед мы бяром на Захадзе, таму што лепшага няма, сказаў ён.

Слова на Кангрэсе бралі таксама **Андрэй Чарнякевіч**, **Уладзімер Мацкевіч** і яшчэ сотні навукоўцаў. **Захар Шыбека** прыляцеў з Ізраіля, **Курт Вулгайзер** — з Амерыкі, гэтым разам была і прадстаўнічая дэлегацыя расійскіх навукоўцаў прагрэсіўнага, антыімперскага толку, у тым ліку з МГІМО, Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта і Вышэйшай школы эканомікі.

**Мікола Бугай**

**Прэміі Кангрэсу даследчыкаў Беларусі**

за найлепшую навуковую публікацыю — гэта прэстыжнае адзначэнне найлепшых навукоўцаў. Яна ўручаецца ў раздзелах гісторыі, гуманітарных і сацыяльных навук. Ад гэтага года прэмія ў галіне гуманітарных навук была аб'яднаная з прэміяй імя Зоры Кіпель Паўночнаамерыканскай асацыяцыі даследчыкаў Беларусі.

У адрозненне ад мінулага года, сёлета Прэмія надавалася асобна: за найлепшую манаграфію і за артыкул.

Вялі цырымонію ўручэння філосаф **Ігар Бабкоў** і тэолаг праваслаўя **Наталька Васілевіч**.

Канверты з вынікамі галасавання экспертаў ускрылі за гадзіну да цырымоніі ў прысутнасці намінантаў.

Прэмію за найлепшую гістарычную манаграфію атрымаў безумоўны бестселер і адначасова кніга, поўная адкрыццяў. Яе напісаў уладальнік аграсядзібы «Марцінова гусь» і адначасова навуковец **Алесь Белы**. «Хроніка Белай Русі: імагалогія Беларусі XII—XVIII ст.»

Вельмі напружаная канкурэнцыя была ў намінацыі «Гістарычны артыкул». Урэшце перамог гісторык **Андрэй Ціхамір аў** з «Жаночымі вобразамі ў «заходнярускай» нарацыі». Хоць прафесар **Алег Латышонак** у кулуарах выказваў думку, што прэміі была годная і **Настасся Скеп'ян** са сваім сенсацыйным адкрыццём «Соф'я Слуцкая: праваслаўная святая каталіцкага веравызнання». У адказ **Аляксей Ластоўскі** пажартаваў, што яна можа перамагчы ў раздзеле манаграфій у наступным годзе.

Прэмію за манаграфію ў гуманітарных навуках атрымаў этнограф і гісторык з Полацкага ўніверсітэта **Уладзімір Лобач** за кнігу «Міф. Прастора. Чалавек: беларускі традыцыйны ландшафт у семіятычнай перспектыве».

Прэмію за артыкул у гуманітарных навуках атрымаў **Андрэй Горных** за артыкул «Капіталізм і трывога».

І, нарэшце, у галіне сацыяльна-палітычных навук перамог зусім малады аўтар **Ігар Расолька** за артыкул «Чыннікі ўзнаўлення беларускай ідэнтычнасці ў памежных прасторах Польшчы і Літвы».

## Сцісла

### Дзіцячая «Мова нанова» сабрала сорак сем'яў

Першыя заняткі бясплатных курсаў беларускай мовы «Мова нанова» для дашкольнікаў прайшлі ў нядзелю 5 кастрычніка ў галерэі «Ў» у Мінску. Іх наведалі дваццаць сем'яў з дзецьмі ад двух да пяці гадоў і яшчэ столькі ж — з дзецьмі пяцішасці гадоў. Выкладае мову маленькім беларусам Алена Церашкова — мама чатырох дзяцей, якая выдала тры ўласныя кніжкі з дзіцячымі загадкамі, вершамі, казкамі. Заняткі актыўна працягваюцца 30 хвілін, пасля чаго дзеці 15 хвілін глядзяць мультфільмы. Сайт курсаў — movananova.by.

### Прэмія Гедройца: Хадановіча, Акудовіча і Пятровіча больш у журы не будзе

У працэдуры прысуджэння прэміі імя Ежы Гедройца плануецца шэраг зменаў. Журы зараз будзе вызначацца спецыяльным камітэтам, у які ўвойдуць старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, а таксама асоба, якую яны выбралі з сяброў журы мінулых гадоў. Сябры камітэта не змогуць абірацца ў журы. Такім чынам, старшыня ПЭНа Андрэй Хадановіч, старшыня СБП Барыс Пятровіч, а таксама Валянцін Акудовіч, якога выбралі ў камітэт, дакладна не ўвойдуць у журы 2015 года.

### Эрмітаж не збіраецца вяртаць Беларусі скарбы

Дзяржаўны Эрмітаж (РФ) не збіраецца вяртаць Беларусі вывезеныя з нашых земель каштоўнасці. Такую выснову можна зрабіць з інтэрв'ю яго дырэктара Міхаіла Піятроўскага тэлеканалу «Беларусь-1». Расійскаму спецыялісту было зададзена канкрэтнае пытанне аб рэстытуцыі, пра тое, ці можа Эрмітаж «падзяліцца» з Беларуссю яе нацыянальнымі скарбамі. Піятроўскі назваў «дрэннай рэччу» разуменне мастацтва як уласнасці і выказаўся супраць рэстытуцыі.

### «Твін Пікс» вернецца?

Рэжысёр Дэвід Лінч намякнуў на вяртанне серыяла «Твін Пікс», апублікаваўшы на сваёй старонцы ў Twitter фразу аднаго з персанажаў тэлепраекта. Серыял «Твін Пікс» выходзіў у эфір у ЗША на працягу двух сезонаў з красавіка 1990 па чэрвень 1991 года. Сюжэт разгортваецца вакол забойства школьніцы Лоры Палмер, якое расследуе спецыяльны агент ФБР Дэйл Купер. У фінальнай, 30-й, серыі прывід Лоры вяшчуе Куперу, што яны сустрэнуцца праз 25 гадоў.

### Папулярная польская актрыса памерла ў 35 гадоў

Ганна Пшыбыльская з мінулага года змагалася з ракам падстраўнікавай залозы. Пшыбыльска стала вядомай пасля роляў у фільмах «Кар'ера Нікася Дызмы» і «Суперпрадукцыя». У яе было трое дзяцей.

### Памёр Любімаў

У Маскве на 98-м годзе жыцця памёр выдатны рэжысёр, заснавальнік Тэатра на Таганцы Юрый Любімаў. Рэжысёру быў пастаўлены дыягназ — сардэчная недастатковасць.

Жыццё яго было поўнае нечаканых паваротаў. У 1984 яго выгналі з СССР. У 1989 ён вярнуўся. Гэта ён развіў талент Высоцкага, Залатухіна, Філатава, Губенкі і зрабіў тэатр адным з самых папулярных у Маскве. Ён любіў пошукі: заслона ў яго тэатры не падымалася і дэкарацый часамі не было, затое ён дабіваўся ад акцёраў Игры з вялікай літары.

## ГАНДБОЛ

### Ліга чэмпіёнаў у Брэсце




9 кастрычніка ў брэсцкім спартыўным комплексе «Вікторыя» мясцовая каманда БГК імя Мяшкова прыме нямецкі «Кіль». Пачатак у 20:30.

## ХАКЕЙ

### Супраць «Слована»

Мінскае «Дынама» ў рамках рэгулярнага чэмпіянату КХЛ правядзе дзве хатнія сустрэчы. 10 кастрычніка «зубры» прымуць славацкі «Слован». 14 кастрычніка «Дынама» гуляе з мыцішчанскім «Атлантам». Пачатак гульняў а 19 гадзіне на «Мінск-Арэне».

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Хімкі»

Пачынаецца розыгрыш Кубка ВТБ па баскетболе. У першай сустрэчы мінскія «Цмокі» 11 кастрычніка прымуць падмаскоўныя «Хімкі». Пачатак а 16 гадзіне на «Мінск-Арэне».

## КАНЦЭРТЫ

### Вася Абломаў

**10 кастрычніка ў Prime Hall (пр. Пераможцаў, 65)** выступае эпатажны і іранічны Вася Абломаў. Пачатак а 21.

### Рэгі-фестываль

**10 кастрычніка ў клубе «Піраты» (пр. Партызанскі, 6А)** пройдзе вялікі Minsk Reggae Festival. Выступяць гурты «Адзіс Абеба», «Марліны», Botanic Project, хэдлайнерам стане рэгі-музыка з Ямайкі Karubel. Пачнецца фэст а 20, а скончыцца — ажно а 6 раніцы.

### Сход калекцыянераў магнітафонаў

**12 кастрычніка ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** адбудзецца Old AudioFest — сход калекцыянераў старых японскіх магнітафонаў. Пачатак а 19.

### «Сімфанічнае кіно»

**16 кастрычніка ў Палацы рэспублікі (Кастрычніцкая пл, 1)** прагучыць «Сімфанічнае КІНО» — найлепшыя песні легендарнага гурту Віктара Цоя ў выкананні сімфанічнага аркестра. Пачатак а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Віталь Рыжкоў у Віцебску

**14 кастрычніка ў Віцебску** пройдзе творчы вечар паэта Віталя Рыжкова, у межах якога будзе прэзентаванае пашыранае перавыданне кнігі вершаў «Дзверы, замкнёныя на ключы». Месца сустрэчы — бітлз-клуб «Паддашак» (Кастрычніцкая,12). Пачатак а 19.

## ФУТБОЛ



### Беларусь — Украіна

9 кастрычніка на «Барысаў-Арэне» ў 21:45 пачнецца адборачны матч да чэмпіянату Еўропы па футболе. Наша каманда прымае гасцей з Украіны. Фанаты абяцаюць выказаць салідарнасць з украінскім народам. Білеты 45—75 тысяч рублёў. 12 кастрычніка ў той жа час і ў тым жа месцы Беларусь згуляе са Славакіяй.





### «Жыццё пасля раку»

**20 кастрычніка а 19 у малой зале КЗ Мінск»** адбудзецца прэзентацыя кнігі «Жыццё пасля раку» гісторыяў людзей, якія не кінулі змагацца і перамаглі сваю цяжкую хваробу. Кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка Свабоды». Павіншаваць гэтых людзей завітаюць гурты: Navi, Recha i Rahis. Уваход вольны.

## ВЫСТАВЫ

### «Апошні візіт»

**Да 11 кастрычніка ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** праходзіць выстава персанальнага фатаграфічнага праекта Віктара Гіліцкага «Апошні візіт». Вельмі прыгожая сентыментальная гісторыя, быццам расказаная ад першай асобы, дзе галоўны герой, чалавек у мудрым веку, пускае нябачнага гледача ў сваё жыццё, выбудоўваючы адкрыта і шчыра сваю штодзённую рэальнасць як рытуал: прыгатаванне ежы, паленне лазні, апрацоўка зямлі, чытанне газет і слуханне радыё.

### Арно Фішэр

**Да 19 кастрычніка ў Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3)** можна пабачыць работы легендарнага нямецкага фатографа Арно Фішэра. У экспазіцыі — 140 работ, створаных на розных этапах творчасці аднаго з самых уплывовых фотамастакоў другой паловы ХХ стагоддзя.

## ТЭАТР

### 9 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Опера** — Кармен
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 10 кастрычніка

**Балет** — Лебядзінае возера
**Беларускай драматургіі** — Купала. Кругі раю
**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

### 11 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі, А мне не сорамна!..
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Марозка
**Опера** — Баль-маскарад
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 12 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Воўк-мараплавец, Восеньская рапсодыя
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Чароўная лямпа Аладзіна
**Опера** — Віні-Пых і ўсе, усе, усе
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 14 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — І мацярынскі чуецца напеў
**Купалаўскі** — Не мой
**Опера** — Сівая легенда

### 15 кастрычніка

**Балет** — Трыстан і Іжота, Шапеніяна, Балеро
**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Офіс
**Юнага гледача** — Тэдзі

## КІНО

### Крывавая гульня

Зніклая
**Жанр:** трылер, драма, дэтэктыў
**Рэжысер:** Дэвід Фінчэр
**У ролях:** Бен Афлек, Розамунд Пайк, Ніл Патрык Харыс, Кім Дзікенс, Эмілі Ратажкоўскі, Кэры Кун
ЗША, 149 хв.

Нік і Эмі Дан два гады жывуць у невялікім гарадку ў штаце Місуры, пераехаўшы туды з Нью-Ёрка. Яны збіраюцца святкаваць пяцігоддзе шлюбу, калі Эмі раптам знікае. Застаюцца толькі сляды барацьбы ў доме, кроў, якую відавочна спрабавалі сцерці, і ланцужок «ключоў» у гульні пад назвай «Паляванне за скарбамі»: прыгожая, разумная і неверагодна вынаходлівая жонка штогод стварала такую гульню для мужа. І падобна, што толькі гэтыя «ключы» даюць шанец праліць святло на лёс зніклай.

Новы фільм культавага амерыканскага рэжысёра Дэвіда Фінчара («Байцоўскі клуб», «Дзяўчына з татуіроўкай дракона») гэтаксама, як і папярэднія стужкі, заснаваны на кнізе і з'яўляецца экранізацыяй аднайменнай крымінальнай драмы Гіліан Флін. Фільм адметны закручаным драматычным сюжэтам, выдатнай рэжысурай і стылёвай падачай матэрыялу. У цэнтры сюжэта — складаныя адносіны паміж мужам і жонкай, якія прыводзяць да падмены і непапраўных вынікаў.

**Настасся Уласава**



# Лёлек і Болек у пінскіх балотах

Пра чары Палесся піша **Вераніка Дзядок**.

Я іх папярэджвала: напрамілы Бог, не прадстаўляйцеся Лёлекам і Болекам! Па-першае, вам усё адно ніхто не паверыць. Ты, Болек, называйся Баляславам. У тваім веку ў нас мужыкоў Болекамі не называюць.

Яны паслухаліся, але я ўсё адно не магла стрымаць смех, заўважаючы недаверлівыя позіркі нашых новых пінска-столінскіх знаёмых, якія чулі імёны маіх турыстаў.

Лёлек і Болек, польскія — не, не шпіёны — калегі маёй сяброўкі, выправіліся ў падарожжа па слядах Рышарда Капусцінскага. З Варшавы яны прывезлі фота яго дома і адрас, і з гэтага пытання мы пачалі размову з нашым пінскім праважатым. Ён паставіўся да Капусцінскага без энтузіязму:

— А навошта вам?

Лёлек і Болек збітыя з панталыку:

— Ну... Мы прачыталі ўсе яго кнігі, ён вядомы пісьменнік. Хочам паглядзець, дзе той дом, дзе маці ягоная начамі не спала, чакаючы, што мо прыйдзе бацька, а мо прыйдуць па іх — адпраўляць эшалонам на ўсход.


Пінск. Цэнтр.

### Пінскія цуды

Аляксандр паабяцаў паказаць дом і працягваў захоплена распавядаць пра Пінск за польскім часам. Пра кірмашы дасягненняў, пра ордэн камуністаў, пра Шымана Сміта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па эканоміцы, чый бацька з'ехаў з Пінска (пагаворваюць, скраўшы грошы ў пінскім банку, дзе працаваў). Пра дзіва прыроды — Піна і Прыпяць зліваюцца на 100 метраў, перамешваюць воды, каб пасля зноў разысціся ў розныя бакі.

— Як мы з табой! — хорам радуюцца Лёлек і Болек.

Перад тым, як паказаць нам дамок Капусцінскага, Аляксандр хоча паказаць нам капліцу, дзе пахаваны спачылы ў 2011 кардынал Казімір Свёнтак. Тут ён скончыў духоўную семінарыю ў 1939, адсюль паехаў служыць у Пружаны, дзе быў прысуджаны да расстрэлу. Сюды ж вярнуўся пасля 10 гадоў сталінскіх лагераў. Кардынала Казіміра згадваюць з любоўю і павагай усе сустрэтыя намі людзі, у тым ліку прадстаўнікі іншых канфесій.

Лёлеку і Болеку падабаюцца прыгодніцкія сюжэты, а кожная крамка на цэнтральнай вуліцы можа апынуцца менавіта той, дзе Капусцінскі шасці-сямігадовым хлопчыкам стаяў марознай ноччу ў чарзе па цукеркі з іншымі паўгалоднымі дзецьмі, каб з раніцы атрымаць толькі пустыя пушачкі ад цукерак.

### Хасід, пахаваны ў дзіцячым садзе

На адной з цэнтральных вуліц мы звяртаем увагу на імпазантны будынак. Высвятляецца, гэта музей гісторыі габрэяў Пінска і Палесся. Пакуль яшчэ не дароблены. Музей ладзіцца высілкамі пінскай габрэйскай грамады і ў прыватнасці яе лідара Іосіфа Лібермана. Пакуль гэта проста калекцыя фота, жывапісных работ, рэчаў, звязаных з габрэйскім жыццём. Сярод экспанатаў будучага музея — альбом з пажаданнямі выпускніка гімназіі з допісам бацькі Рышарда Капусцінскага.

На першым паверсе будынка ўжо працуе рытуальная амывальня — міква. У двары збіраюць надмагіллі, якія хтосьці знайшоў.

Габрэйскія могілкі ў Пінску перажылі вайну, знеслі іх ужо ў 1960-я гады. Цяпер, напрыклад, магіла сына хасідскага мудраца Баал Шэм-Това, члена суда рабінаў, знаходзіцца на тэрыторыі дзіцячага сада. Дазволу на ўшанаванне магілы яўрэйскай грамадзе не даюць.


Засомінае возера.

Яшчэ дзве магілы знаходзяцца на набярэжнай, ва ўрочышчы Каралін. Там былі пахаваныя таксама два цадыкі — Аарон бен Якаў Карлінер і ягоны сын Ошэр Карлінер. Аарон быў піянерам хасідскага руху на Літве. Менавіта па назве ўрочышча Каралін усіх хасідаў у ВКЛ звалі «карлінерамі». Карлінска-столінскія хасіды былі некалі вядомыя на ўвесь свет, таму недахопу ў турыстах не было б.

### Як выжываюць на балотах

Да дому Капусцінскага застаецца прайсці зусім крыху, мы ўжо каля чыгуначнага вакзала. Недзе тут аднойчы ён пачуў, як яго з эшалона кліча школьны настаўнік. Чырвонаармеец, што ахоўваў эшалон, выцяў маленькага Рышарда па галаве, і той не здолеў развітацца з панам настаўнікам. Але перад гэтым нас яшчэ чакаюць Альманскія балоты.

У савецкія часы тут дзейнічаў авіяцыйны палігон краін Варшаўскай дамовы. Сёння гэта ландшафтны заказнік. Паміж балотамі раскіданыя купкі лясоў, а таксама азёры — 2 вялікія і 23 малыя. Раней на балатах знаходзіліся Мерлінскія хутары. Людзі засялялі прастору між балотаў, выгрызаючы прыдатныя для земляробства землі. Пасля Чарнобыля некаторыя жыхары Мерлінскіх хутароў перасяліліся ва Украіну. Таму на часовыя міграцыі праз мяжу мясцовага насельніцтва з абодвух бакоў тут заплюшчваюць вочы.

Збор журавінаў на балотах з'яўляецца асноўным заняткам мясцовых жыхароў. За сезон руплівая сям'я можа зарабіць да пяці тысяч даляраў. Аднак праца гэта цяжкая. Каб несці на сабе кілаграмы назбіраных ягад, трэба мець немалую фізічную сілу.

Узімку мужчыны ад'язджаюць на працу, найчасцей у Расію. Як пісалі ў савецкіх падручніках гісторыі, адыходныя промыслы — паказнік адсталасці і прыдаткавага характару эканомікі.

### Тост каралевы Боны

Па балатах нас згадзілася правесці кіраўніцтва заказніка. Іван Васілевіч — сапраўдны мясцовы паляшук. Ягоны дзед быў аб'ездчыкам у радзівілаўскім маёнтку Манькавічы, на чоўне сустракаў гасцей князя.

На тэрыторыі балотаў, спецыяльна для турыстаў, зробленая гаць, якая вядзе да возера. Для дагляду за станам балота ў мясцовай гаспадарцы ёсць балатаход, неабходны перш за ўсё на выпадак пажару — самай вялікай небяспекі для тарфянікаў.

Далёкім гасцям Лёлеку і Болеку дазваляюць у гумовых ботах пагушкацца на моху і панюхаць багуна. Азёры пасярод балота багатыя на самоў. Яны прыплываюць у возера па падземных, пад балаціною, рэках.

Ісці па балоце лепей з праваднікам. Бо ні жураўоў, ні гадзюку пад нагамі гарадскі жыхар не заўважыць. На ўскрайках балота стаяць крыжы-прошчы, на адным з якіх, кажуць, вісіць царкоўнае ўніяцкае распяцце. Як належыць, ёсць і прыпавесць пра столінскіх небаракаў, што скралі яго, але хутка вымушаны былі вярнуць.

Лёлек і Болек у расчараванні, што знаходзяць тут больш нямецкіх, чым польскіх слядоў. Рачулка Льва, як давялі філолагі, мае прускую назву.

— І Альманы, відавочна, ад французскага Allemagne — Германія, — падміргвае Лёлек.

І Лёлек з Болекам ужо шкадуюць, што яны не нямецкія, а ўсяго толькі польскія шпіёны.

Рыба не пераводзіцца, размовы пры вогнішчы не сціхаюць, а багна не выпускае Лёлека і Болека, пакуль у іх не скончыцца віза.

Яны яшчэ памятаюць, што нешта вельмі важнае павінны паглядзець у Пінску.

Але тут, у палескай глушы, ніхто і слухаць не хоча пра Капусцінскага. Затое мноства пагалосак мы чуем пра каралеву Бону. Матэрыяльных слядоў яе прысутнасці амаль не засталося, затое кожны паляшук распавядзе, як каралева атруціла нявестку Барбару. Ці як Жыгімонт узяў яе ў жонкі, закахаўшыся ў яе пантофлік. І ніводнае застолле не абыдзецца без тосту каралевы Боны: чацвёрты, восьмы і дванаццаты тост п'юць за мужчын. Згодна з мясцовай легендай, каралева пажадала, каб муж памілаваў чацвёртага, восьмага і дванаццата каханка, калі ён хацеў пакараць смерцю іх усіх.

### Адзіны мост на 200 км

Ці доўга, ці каротка, але шлях дадому зноў вядзе праз Пінск — адзіны шлях са Століна да цывілізацыі ідзе па пінскім мосце. Іншага моста няма на працягу 200 кіламетраў, з невытлумачальным гонарам кажуць пінчукі.

— Чым тут ганарыцца? — пытаецца Лёлек.

— Каралева Бона не загадвала ім будаваць масты! — кампетэнтна згаджаецца Болек.

І калі за шыбай praплывае домік Капусцінскага, ні Болек, ні Лёлек ужо не просяцца выйсці.

— Зробім калаж у фаташопе для польскіх сяброў!


Грэбля цераз багну.


Аброчны крыж на беразе Засомінага возера.

# Віктар Марціновіч — надзея беларускай літаратуры

Хто спадзяецца на беларускую літаратуру — прыглядзіцеся да Марціновіча. Я б нават сказала, што Віктар Марціновіч сёння — галоўная надзея беларускай літаратуры. Ён паслядоўна расце ад кнігі да кнігі. Такую выснову зрабіла па прачытанні апошняга рамана Марціновіча «Мова».

Даўно не атрымлівала ад чытання такога задавальнення.

У кнігі шмат вартасцяў.

Па-першае і галоўнае: кніга мае цікавы і закручаны сюжэт. Я з тых чытачоў, для якіх гэтая акалічнасць — абсалютна неабходная для таго, каб кніга спадабалася. «Мова» — сюжэтная кніга. І сюжэт разгортваецца вельмі дынамічна. І цяжка прадказаць, што чакае на наступнай старонцы.

Па-другое і таксама галоўнае: каб мастацкі тэкст быў удалым, у ім павінен быць нерв часу, той грамадзянскі нерв. Ён павінен нейкім чынам адказваць на пытанні супольнасці. «Мова» Марціновіча — чапляе і адказвае.

Гэта толькі па форме раман «Мова» — утопія, дзеянне якой адбываецца ў будучыні. Па сутнасці, гэта вельмі дакладнае апісанне таго, што маем цяпер. Так, прынамсі, мне падалося.

Калі «Хвілінку» Бабкова, сёлета ўзнагароджаную найпрэстыжнейшай прэміяй Гедройца, можна ўспрымаць як аповед пра тое, што мы (грамадства, грамадзянская супольнасць, інтэлектуалы, інтэлігенцыя — акрэсленне падстаўце самі) рабілі дзеля пабудовы Беларусі і развіцця беларускасці (каву пілі і гэтак далей), то «Мова» — гэта канстатацыя таго, да чаго нашы высілкі прывялі і што мы маем у выніку. Вось цяпер.

Нахабныя мардатыя гаспадары жыцця — і няшчасныя, вартыя жалю маргіналы-наркаманы беларускай мовы.

Новая рэлігія шопінгу тых, хто не можа жыць без эмоцый гіпермаркета — і ідыёты, якія эмоцыі атрымліваюць ад Дубоўкі.

Натоўпы асобін, якія не шукаюць ніякага сэнсу — і няшчасныя адзінкі, якія бездапаможна і пакутліва спрабуюць тыкацца кудысьці ў нейкай неакрэсленай патрэбе асэнсавання...

Марціновіч першы ў Беларусі, хто так выразна агучыў небяспекі стварэння новай расы чалавекаў — расы «Акропаліса». І гэтая зоркасць многага вартая.

Уменне выразна назваць тое, што цьмяна адчуваюць іншыя, — яўная прыкмета сапраўднай літаратуры.



І яшчэ злавіла сябе на думцы: Віктар Марціновіч у гэтай сваёй інтэлектуальнай смеласці нагадаў мне такога ідэалагічна адрознага ад яго Юрыя Станкевіча. (Магчыма, гэтую думку многія аспрэчаць, а нават і самі спсп. Марціновіч і Станкевіч.) Але ім абодвум уласцівая вельмі важная для літаратуры рэч: непаліткарэктнасць.

Ёсць у кнізе і моманты, якія мне трохі мулялі, не даючы адназначна абвясціць яе шэдэўрам... Напрыклад, не вельмі ўдалым, занадта літаратурным падаўся вобраз Цёткі і звязаная з ёю лірычная лінія. Але, здаецца, гэтая няўдача цалкам пакрываецца жаночым вобразам, які ўзнікае ў рамане пры самым канцы, ха-ха-ха...

Здаецца, Віктар мае важную для пісьменніка рэч: дапытлівы погляд. Хочацца толькі пажадаць і яму, і нам, чытачам, каб ён не замыльваўся.

І яшчэ адна важная рэч: гэты раман расказвае пра чыста беларускія праблемы так, што гэта можа быць цікава ўсяму свету. Таму ўпэўненая, што кнігу будуць перакладаць.

**Наталка Бабіна**

# Акт вандалізму

**Валянцін Стэфановіч.**
Апавяданне.

Здарылася гэтая гісторыя ў тыя далёкія часы, калі ўсе мы былі піянерамі, насілі чырвоныя гальштукі, хадзілі «строем», распяваючы крычалкі, у якіх кляліся вырасці годнай зменай старэйшым камуністам-ленінцам. Памятаеце ўсе гэтыя «Взвейтесь кострами, синие ночи, мы пионеры — дети рабочих! В борьбе за дело коммунистической партии будь готов — всегда готов!» І гэтак далей.

Мы з бацькамі толькі атрымалі двухпакаёўку ў новым мікраёне на вуліцы Асаналіева.

Натуральна, мне прыйшлося перайсці і ў новую школу. З добрай школы з англійскім ухілам я трапіў у звычайную, якая знаходзілася проста насупраць майго дома. Памятаю, вельмі хваляваўся перад першым верасня. Новы клас, як я ўпішуся ў яго? Я ж буду адзіны «новенькі», і да мяне будзе пільная ўвага не толькі з боку настаўнікаў, але і аднакласнікаў? Вядома, хлопцы захочуць праверыць, што гэта за «новенькі», як ён трымаецца, як ён у бойцы... Але хваляванні мае былі дарэмныя, бо ўсе мае аднакласнікі апынуліся «новенькімі», усе былі «перасяленцамі» з навакольных навабудаў.

Сама школа была таксама новай, і яе дырэктарка, напэўна, была жанчынай не без амбіцый.

Яна вырашыла зрабіць са школы ўзорна-паказальную ідэалагічную ўстанову. На адным з паверхаў на сцяне з мазаікі быў выкладзены профіль шэфа ЧК Фелікса Дзяржынскага і знаходзіўся музей міліцыі. Ён распавядаў пра гісторыю стварэння міліцыі ў БССР, аб няспыннай барацьбе «органаў» па ўсталяванні савецкай улады на нашых тэрыторыях.

Але гэтага здалося замала нашай маладой ды амбітнай дырэктарцы. На другім паверсе школы яна запланавала зрабіць штосьці накшталт ленінскага пакоя — з фотаздымкамі сям'і Ільіча і іншымі матэрыяламі, прысвечанымі «правадыру сусветнага пралетарыяту».

Але самым шыкоўным з задуманага быў профіль Леніна, выкладзены на сцяне з кавалачкаў люстэрак!

Такога дакладна не было ў ніводнай школе не толькі Кастрычніцкага раёна, але ўсяго Мінска і Мінскай вобласці! Пасля такога нашую дырэктарку проста былі абавязаныя прасунуць па службовай лесвіцы ў гарана, ды што там — у Мінскі гарсавет!

«Пачын» дырэктаркі быў горача ўхвалены Радай піянерскай дружыны школы, якая даручыла ўсім піянерам прынасіць кавалачкі з люстраў для ўвасаблення гэтай геніяльнай ідэі. Так, усе піянеры і камсамольцы школы, што ў тыя часы азначала ўвесь вучнёўскі склад, далучыліся да практычнай рэалізацыі манументальнага твора. Да канца навучальнага года праца была амаль скончаная, і яе планавалі завяршыць падчас летніх вакацыяў, калі ў школе будзе ціха і ніхто не будзе замінаць майстрам.



**Валянцін Стэфановіч**
Нар. 1972 у Мінску. Юрыст, праваабаронца-вясновец.

## Ленін у нас на вачах споўз са сцяны і рассыпаўся

Я не памятаю дакладна, ці прынёс я ў школу кавалачак люстэрка, паўдзельнічаўшы такім чынам у «пачыне», але я дакладна памятаю, што стаў сведкам і, магчыма, саўдзельнікам знішчэння люстранога пано.

На летнія вакацыі большасць з маіх аднакласнікаў паехала да бабуль-дзядуль у вёскі. У мяне не было вёскі, і я разамі з такімі ж беспрытульнымі быў вымушаны хадзіць у школьны лагер. Была альтэрнатыва ў выглядзе піянерскага лагера, але, пабываўшы ў такіх лагерах двойчы, я быў упэўнены, што абмежаванне волі значна лепей за яе пазбаўленне. Таму абраў школьны лагер, так хоць начаваць дома буду. У лагеры карміці, прапаноўвалі экскурсіі па родным Мінску, сярод якіх мне асабліва спадабалася экскурсія па толькі што здадзеным у эксплуатацыю мінскім метро — па першых, здаецца, пяці станцыях. Але ў цэлым у лагеры было сумна і нудотна.

Разам са мной быў аднакласнік Сяроўжа Д., гэткі тоўсценькі весялун. У яго была рагатка — сапраўдная, з гумовым бінтам. Сяроўжа па-майстэрску страляў з яе дробнымі каменьчыкамі і жалезнымі шарыкамі з падшыпнікаў. Калі страліць такім жалезным шарыкам у шыбу — шкло не біласа, а ў месцы, куды трапіў шарык, заставалася роўненькая дзірачка, як ад кулі. Шыкоўна!

У адзін з такіх нудотных летніх дзён мы з Сярожкам гулялі па апусцелых школьных калідорах. Па дарозе сябар расстрэльваў з рагаткі шыбы, робячы ў іх дзірачкі ад куль.

І раптам ... наш позірк упёрся ... у люстранога Ільіча на сцяне.

Я не памятаю, хто прапанаваў гэтую ідэю, але дакладна памятаю, што мы абодва былі проста ў захапленні ад яе: стрэліць у адно з люстэрак на сцяне! Сярожка дастаў з кішэні чарговы шарык, заклаў у рагатку, прыцэліўся і ... О божа! Люстэркі проста адваліліся ад сцяны і з грукатам бразнуліся аб бетонную падлогу!

Ленін знік, споўз у нас на вачах са сцяны і рассыпаўся на дробныя кавалкі!

«Ух ты!» — вырвалася ў нас абодвух, і тут жа мы з жахам паглядзелі адзін на аднога: « Бяжым хутчэй! Што зараз будзе?!»

Незаўважна нам удалося выбегчы з будынка школы. На вуліцы, перавёўшы дыханне, мы дамовіліся з Сярожкам ні ў якім разе не распавядаць нікому пра тое, што здарылася. Нікому! Інакш нам гамон!

А што было пасля?

Пасля было шмат шуму-гаму. Адміністрацыя школы шукала, хто здзейсніў гэты акт вандалізму.

Зараз можна толькі здагадвацца, што б чакала нас з Сярожкам, калі б даведаліся, што гэта былі мы. Як мінімум, выгналі б са школы. Але ніхто не даведаўся. Мы ж далі адзін аднаму слова!

Прайшлі гады, знік камуністычны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Сярожка пасля сканчэння ПТВ працуе, гадуе дзяцей і, напэўна, забыўся пра гэтую старую гісторыю. Я не ведаю, ці ўдалося зрабіць кар'еру нашай дырэктарцы, але памятаю, што гадоў праз дзесяць, на пачатку 90-х, зазірнуўшы ў сваю школу, я ўбачыў на месцы таго люстранога пано нававыкладзены з мазаікі профіль... Францішка Скарыны.




Добрых графіці ў краіне становіцца ўсё болей. Кейстут — у Баранавічах, Караткевіч — у Рагачове. Цяпер вось князь Вітаўт з'явіўся ў Гродне. Працу выканаў светлагорскі мастак Silen.



## Анекдоты і жарты

* * *

Кажуць, што шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік. Я ўжо блізка! Я ў яго ў пячонках сяджу...

* * *

Група вопытных археолагаў падчас раскопак знайшла групу нявопытных.

* * *

Па цане новага і Phone 6 у Беларусі можна купіць 40 мяхоў бульбы сезона 2014/2015, білет на самалёт Мінск—Рым і хамячка на рэшту.

* * *

Мы паставілі ў супермаркеце 30 кас, каб 28 з іх не працавала.

* * *

Маё дзяцінства і юнацтва прайшлі без інтэрнэту. Можа быць, таму я разумею, што за языком трэба сачыць, а за словы — адказваць.

* * *

— Навошта вы скралі рулон туалетнай паперы?

— Я не краў. А збіраўся разлічыцца пазней.

— У вас не было 5 тысяч, каб заплаціць?

— У мяне не было часу, каб заплаціць.

* * *

—Добры дзень, мяне завуць Біл Гейтс, і сёння я навучу вас лічыць да 10, паехалі: 1, 2, 3, 95, 98, NT, 2000, XP, Vista, 7, 8, 10.

* * *

Безвыходнасць — гэта калі ў самотнага мужчыны алергія на пельмені. Усё астатняе — дробязь.



СЯРГЕЙ ЗІНІН

БАТЭ рэабілітаваўся пасля адчувальнай поўхі ў Порту. У другім матчы групавога этапу Лігі чэмпіёнаў барысаўцы дома перамаглі «Атлетык» з Більбаа (Іспанія) — 2:1. На фота: Дзяніс Палякоў толькі што забіў першы гол сваёй каманды.

## «НН» сто гадоў з вамі

**За апошнія дні** ў Мінск наплыло шмат уцекачоў з захопленых вайной месцаў. Тутэйшыя рэстараны і кавярні і іншыя харчэўні перапоўненыя. Гасцініцы бiткoм набіты. Сярод мясцовых палякаў арганізуецца помач для бяднейшых уцекачоў.

**«НН». №40. 1914.**

**Кардынал Казімір Свёнтак, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі,** атрымаў з рук Папы Яна Паўла II прэмію «Fidei testis» («Сведка веры»). Дзякуючы за наданне яму ўзнагароды, Казімір Свёнтак сказаў: «Я ахвярую гэткае высокае прызнанне бабулям маёй краіны, якія змаглі захаваць веру ў гады пераследу, перадаючы яе сваім унукам і праўнукам, тым самым не даўшы памерці Касцёлу».

**«НН». №37. 2004.**



Адным з самых каларытных персанажаў Парыжскага тыдня моды стаў амерыканскі прадпрымальнік Джэймс Гальдштэйн. Ён прыляцеў у Парыж у суправаджэнні юнай бландзінкі Ілоны Гузарэвіч — ураджэнкі Мінска, студэнткі ЕГУ.



У Гомельскі ўніверсітэт імя Скарыны паступіў студэнт Францыск Скарына. Звычайны хлопец — працуе на рынку аўтазапчастак. Паступіў на факультэт фізкультуры завочна, бо марыць адкрыць сваю спартзалу. Яму 24 гады, родам з-пад Пінска.


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднОўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 07.10.2014.
Замова №4124.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14037